# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Грамадскага аб’яднання “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”
і Грамадскай арганізацыі “Беларускае таварыства
дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”

## ЗМЕСТ



• № 6 (54) • ЧЭРВЕНЬ • 2000 • МІНСК • БЕЛАРУСЬ •

Заснавальнікі:
**Грамадскае аб’яднанне “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”,
Грамадская арганізацыя “Беларускае таварыства дружбы
і культурнай сувязі з замежнымі краінамі”**



Адрас рэдакцыі:
**Рэспубліка Беларусь, 220050, Мінск,
вул. Рэвалюцыйная, 15, Камітэт ГА “МАБ”**

Тэлефон: **+375 (017) 220 76 04**
Факс: **+375 (017) 220 93 50**

E-mail:
**mab@lingvo.minsk.by**

Электронны варыянт у InterNet:
**http://www.lingvo.minsk.by**

*На першай старонцы вокладкі —*
**“Лета пекнае, будзь са мной”.
Здымак Уладзіміра Гофмана**

Бюлетэнь выдаецца і высылаецца толькі тым сябрам ГА “МАБ”, якія ўнеслі складкі.

Памер складак у месяц (з 2000 г.): у Беларусі — **450 рублёў**,
у краінах СНД — **2 USD**, Цэнтральнай Еўропы — **3 USD**,
Заходняй Еўропы, Азіі, на іншых кантынентах — **5 USD**.

Перыядычнасць выхаду — **1 нумар у месяц**.

Мовы выдання — беларуская, англійская і ў перспектыве — руская.

Паведамленні аб уплаце складак просім дасылаць на адрас рэдакцыі.

Складкі просім пераводзіць аднаму з заснавальнікаў бюлетэня —
**Камітэту ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў».**

Банкаўскія рахункі:
**рублёвы і валютны —
3015000005287 у Мінскім абласным упраўленні
АСБ “Беларусбанк” г. Мінска, код 807.**



# Міжнародны кангрэс беларусістаў

## Інфармацыйнае паведамленне

22–24 мая бягучага года адбыліся пасяджэнні першай сесіі III Міжнароднага кангрэса беларусістаў пад назвай “Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур (Да 2000-годдзя Хрысціянства)”. Да арганізацыі Кангрэса спрычыніліся яго сузаснавальнікі — Міністэрства адукацыі Беларусі, Міністэрства замежных спраў Беларусі, Міністэрства культуры Беларусі, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны.



*Адкрыццё Кангрэса. Фота БелТА*

Кангрэс пачаўся песнямі “О, Беларусь, мая шыпшына” і “Магутны Божа” ў выкананні хору “Унія”. Уступным словам пленарнае пасяджэнне адкрыў прэзідэнт асацыяцыі Адам Мальдзіс. У сваім выступленні ён паспрабаваў вызначыць, хто ж такія беларусісты. “Гэта пераважна навукоўцы, пісьменнікі, перакладчыкі, грамадскія дзеячы розных краін і народаў, якія бескарысліва і высакародна служаць яе вялікасці Беларускай Культуры. Чаму бескарысліва? Ды таму, што, здаецца, на гэтым служэнні яшчэ ніхто істотна не ўзбагаціўся, хаця сама беларуская культура вельмі багатая, мае шматвяковыя традыцыі. Чаму высакародна? Ды таму, што высакародны сам аб’ект служэння. Беларуская культура нарадзілася на памежжы Усходу і Захаду, плённа ўбірала ў сябе ўздзеянні і таго, і другога, таму яна не можа, не мае права быць арэнай міжусобных сутычак, павінна служыць узаемаразуменню людзей, народаў, краін і канфесій. Гэтую культуру можна параўнаць і з каралеўнай, і з папялушкай. З каралеўнай — таму што валодае непадлічанымі яшчэ скарбамі, прывабнымі не толькі для свайго народа, не толькі для памежных краін, але і для сусветнай супольнасці. Папялушкай — таму што стагоддзі дэнацыяналізацыі зрабілі яе няўпэўненай,

закамплексаванай, усё яшчэ недастаткова вядомай у свеце. Таму і прынца свайго яна выбірае з асцярожнасцю. Праўда, толькі што парламентарыі дзвюх краін зарэгістравалі яе шлюб. Але дай Божа ёй захаваць у гэтым шлюбе сваю годнасць і незалежнасць".

Міністр адукацыі Беларусі Васіль Стражаў зачытаў прывітанне прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ярмошына (тэкст яго друкуецца ніжэй). З прывітаннем ад Міністэрства замежных спраў выступіў начальнік яго ўпраўлення Станіслаў Агурцоў. Блаславенне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта перадаў прысутным дыякан Аляксанда Шамбалёў.

Удзельнікі пленарнага пасяджэння заслухалі даклады прафесара Мікалая Крукоўскага (Беларусь), пісьменніка і вучонага Юрыя Сураўцава (Расія), прафесара Надзеі Высоцкай (Беларусь), доктара Вітаўта Кіпеля (ЗША), рэктара Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка Леаніда Ціханава, дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, акадэміка Радзіма Гарэцкага (усе — Беларусь), прафесара Аляксандра Баршчэўскага (Польшча). Затым былі абвешчаны вынікі Міжнароднага конкурсу вучнёўскай і студэнцкай моладзі пад назвай "Францыск Скарына ў маім уяўленні", прысвечанага 510-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага асветніка.

Пасля абеду пачаліся пасяджэнні секцый і "круглых сталоў" (часткова іх вынікі адлюстраваны далей у справаздачах старшыняў). Секцыі былі прысвечаны праблемам "Хрысціянства і Беларусь", "Францыск Скарына і еўрапейская культура", літаратуразнаўчай, мовазнаўчай, гістарычнай і культуралагічнай тэматыцы. "Круглыя сталы" былі арыентаваны на паасобныя краіны або групы краін: "Беларусь – краіны Балтыі", "Беларусь – Польшча", "Беларусь – Расія", "Беларусь – Украіна", "Беларусь – краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы". Паралельна адбыліся справаздачна-перавыбарчыя сходы дэлегатаў Міжнароднага кангрэса беларусістаў і сяброў Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў (справаздачы з іх друкуюцца ніжэй).

24 мая прайшло заключнае пленарнае пасяджэнне. Першая яго частка была прысвечана Дню славянскага пісьменства і культуры. Да прысутных звярнуліся народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч (тэкст яго выступлення друкуецца), балгарская беларусістка Венета Георгіева-Казарава, член-карэспандэнт НАН Украіны Рыгор Піўтарак, дыякан Аляксандр Шамбалёў. Затым з дакладамі выступілі акадэмік Міхаіл Цяўлоўскі (Беларусь), прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Яўген Шыраеў (Расія), прафесар Зінаіда Мажэйка (Беларусь). Быў прыняты выніковы дакумент.

25 мая ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны адбылося пасяджэнне бюро перавыбранага камітэта, дзе быў удакладнены тэкст выніковага дакумента, абмеркаваны пытанні правядзення другой сесіі Кангрэса.

# УДЗЕЛЬНІКАМ III МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

Урад Рэспублікі Беларусь сардэчна вітае вас, даследчыкаў беларускай культуры, прыхільнікаў беларускага слова, удзельнікаў III Міжнароднага кангрэса беларусістаў.

Кангрэс прысвечаны карэнным для беларускага народа праблемам. Адна з важнейшых з іх — праблема ўзаемадзеяння з іншымі народамі, іх культурай, мовай, літаратурай. Беларусь здаўна не толькі скарыстоўвала здабыткі іншых народаў, але і сама дарыла арыгінальныя ідэі, падыходы і канцэпцыі. Беларусь дала свету шмат выдатных дзеячаў навукі і культуры. Нязгасным светачам сярод іх з'яўляецца імя Францыска Скарыны.

Актуальнай застаецца і праблема "Хрысціянства і Беларусь". Хрысціянскія каштоўнасці спрадвеку жывілі беларускую культурную традыцыю. Наша зямля можа служыць узорам рэлігійнай талерантнасці і міжканфесійнага дыялогу.

Спадзяёмся, што работа Кангрэса дасць магчымасць падвесці вынікі шматвяковага гістарычнага развіцця нашай культуры, унясе свой уклад ва ўмацаванне беларускай дзяржавы і будзе садзейнічаць росту міжнароднага аўтарытэту Рэспублікі Беларусь.

З прыемнасцю адзначаем вашу сталую зацікаўленасць беларусістыкай, жадаем здароўя, поспехаў у навуковай дзейнасці і плённай працы.

*Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь* ***У. В. Ярмошын***

# ВІНШАВАННІ І ПРЫВІТАННІ КАНГРЭСУ

## ШАНОЎНЫЯ КАЛЕГІ!

Ад імя Агульнапольскага клуба аматараў Літвы, пры пасрэдніцтве члена праўлення нашага клуба і дэлегата кангрэса Чэслава Сэнюха перадаю віншаванні ўдзельнікам III Міжнароднага кангрэса беларусістаў.

Пяць гадоў таму з вялікай групай польскай дэлегацыі я ўдзельнічаў у рабоце вашага II Кангрэса. З таго часу і да сённяшняга дня вы прайшлі цяжкі шлях. Часта кажуць, што да поўнай незалежнасці Беларусі вядзе доўгі пераход. Мяркую, аднак, што вы можаце хутчэй дасягнуць гэтай мэты, калі беларускія эліты выберуць авангардную, наступальную, а не абараняльную стратэгію. На маю думку, не трэба пакідаць у эпосе, якая адыходзіць, розныя нацыяналізмы, вылепленыя з ранейшай гліны пад лозунгам "Беларусь для беларусаў" або "Давайце ўмацоўваць наш нацыяналізм шляхам барацьбы з ворагам".

Не варта займаць чаргу ў НАТО або Еўрапейскую унію, але наадварот — трэба задаваць сабе пытанне: што Беларусь, Украіна, Польшча могуць даць свету. Не трэба баяцца сусветнай тэхнічнай цывілізацыі пры ўмове, што нашы

грамадзяне ў адносінах з Бруселем будуць адыгрываць творчую, а не пасіўную ролю. Нельга паддавацца ні комплексу непаўнацэннасці, ні адчуванню вышэйшасці, але займаць умераную, партнёрскую пазіцыю. Захаваць уласную нацыянальную тоеснасць і адначасова ўзаемна вучыцца шляхам дыялогу. Належыць прызнаць, што толькі культуравы плюралізм можа быць узорам для Еўропы, у якой яднаюцца айчыны, гэта значыць — абапірацца на прынцып: адзінства ў разнароднасці. Кажучы ўслед за Цыпрыянам Норвідам, трэба менш сварыцца, а больш адрозніваца.

Беларусь можа — па майму меркаванню — адыграць ролю моста паміж заходняй, лацінскай, і ўсходняй, візантыйскай, цывілізацыямі. Папа Ян Павел II падкрэслівае ў межах экуменізму ролю заходняга і ўсходняга крылляў хрысціянства.

Мне здаецца, што XXI стагоддзе, якое неўзабаве наступае, павінна быць эпохай сінтэзу паміж камунізмам і капіталізмам, а шырэй — паміж грамадскім калектывізмам і грамадскім індывідуалізмам у духу грамадска заангажаванага персаналізму.

Найлепшым шляхам абмежавання беспрацоўя з'яўляецца інвеставанне ў адукацыю. Але яшчэ важней — выхаваць мужнага чалавека, які вынікова дзейнічае ў маральна слушнай справе пад лозунгам: “Рамантызм мэтаў — пазытывізм сродкаў”.

Вялікі прыхільнік Беларусі — краіны і людзей, член нашага клуба праф. Юзаф Лукашэвіч, матэматык з Вроцлаўскага універсітэта, перамерваў часта беларускую зямлю як пілігрым. Яго жыццёвае крэда, якому ён верны з дзіцячага ўзросту, гучыць так:

1. Свет — прыгожы;

2. Людзі — добрыя;

3. Кожны штодзённа павінен гаварыць, што з'яўляецца самым шчаслівым чалавекам у свеце.

Жадаю ўсім беларусам і сябрам беларусаў нялёгкага аптымізму. Падкрэсліваю: не песімізму і не наіўнага аптымізму, але аптымізму цяжкага, уражлівага на злое, аднак адначасова перакананага, што дабро мацней, чым зло.

*Праф.* ***Леан Брадоўскі*** *(Варшава)*

## ПРЭЗІДЫУМУ КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

Ад усяго сэрца жадаю поўнага поспеху Вашаму Кангрэсу, вельмі важнаму як для сённяшняй славістычнай навукі ўсіх краін, асабліва еўрапейскіх, так і ў развіцці культурнага жыцця Вашага народа. Паколькі я не змагу асабіста ўдзельнічаць у Вашых пасяджэннях, такім шляхам віншую Вас ад імя Нямецкага камітэта славістаў і нашай славістыкі ў цэлым усіх удзельнікаў Кангрэса.

*Праф.* ***Ганс Ротэ*** *(Бон, Германія)*

## МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

Шаноўны і дарагі гаспадар прэзідэнт!

Шаноўныя і дарагія калегі, якія зноў спатыкаюцца на любімай мною беларускай зямлі!

На жаль, па стану здароўя мне не дадзена ўдзельнічаць у аўтарытэтным зборы. Але як ганаровы сябра лучуся з Вамі самымі цёплымі думкамі. Я ўпэўнены, што на працягу нават гэтых кароткіх трох дзён Вы зможаце многае здзейсніць і далей прасунеце нашы навуковыя даследаванні. Спадзяюся, што і надалей будзе нам старшыняваць калега Адам Мальдзіс і што ў больш шырокім коле сустрэнемся восенню.

Жадаю плённай працы!

*Праф.* ***Анджэй Цеханавецкі*** *(Лондан)*

Віншаванні Кангрэсу і новаму кіраўніцтву ГА “МАБ” прыслалі таксама старшыня Таварыства беларускай мовы ***Алег Трусаў***, прафесар ***Віктар Ельскі*** (Данецк), доктар ***Анна Завідзка*** (Варшава) і інш. Усім ім выказваецца шчырая падзяка.

# ДАКЛАДВАЮЦЬ СТАРШЫНІ СЕКЦЫЙ І “КРУГЛЫХ СТАЛОЎ”

## ХРЫСЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСЬ

Секцыя “Хрысціянства і Беларусь” — адна з самых буйных па колькасці ўдзельнікаў. Было заслухана і абмеркавана 39 дакладаў і паведамленняў. У рабоце секцыі ўдзельнічалі вядомыя навукоўцы Уладзімір Конан, Анатоль Грыцкевіч, Ян Чыквін, Юрый Лабынцаў, Рыгор Грудніцкі, Уладзімір Кароткі, Эдуард Дубянецкі і інш., а таксама каля трох дзесяткаў гасцей. Пад час секцыі дзейнічалі кніжныя выстаўкі “Беларуская праваслаўная літаратура” і “Беларуская каталіцкая літаратура”, дзе была прадстаўлена пераважна перакладная, а таксама арыгінальная тэалагічная літаратура.

Прадстаўленая тэматыка ўмоўна можа быць падзелена на тры кірункі: уплыў хрысціянства на станаўленне беларускай культурна-мастацкай традыцыі, у тым ліку літаратуры; праблема перакладу на беларускую мову Святога пісання; хрысціянскі чыннік у фарміраванні светапогляду асобы і развіцці беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

Пры абмеркаванні пытанняў практычнага перакладу Бібліі на беларускую мову асаблівую цікавасць выклікаў даклад айца Сергія Гардуна, у якім аўтар засведчыў не толькі глыбокія тэалагічныя веды, тэарэтычны досвед, але і практычна-лінгвістычныя навыкі, жывое адчуванне беларускага слова і дасканалае валоданне роднай мовай. Сваё бачанне праблем перакладаў літургічных тэкс-

таў выклаў і айцец Аляксандр Надсон, апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане. Айцец Аляксандр распавёў пра знойдзеныя ім памылкі ў некаторых перакладах тэкстаў, якімі карысталіся беларускія святары і вернікі на працягу доўгага часу, а таксама пра свае ўласныя пераклады, зацверджаныя Апостальскай сталіцай. Гэтыя два бліскучыя даклады, а таксама выступленні на тую ж тэму свецкіх навукоўцаў пацвярджаюць меркаванне, што беларуская біблеістыка існуе і развіваецца.

Пра сутнасць і дзейнасць рыма-каталіцкага касцёла на Беларусі можна было даведацца са змястоўнага даклада біскупа з Гродна Антонія Дзямянкі. Ролю масмедыя ў хрысціянскім жыцці падкрэсліў кс. Аляксандр Тарасевіч, а праблемы хрысціянскага выхавання моладзі ў сённяшняй Беларусі досыць грунтоўна вызначыў доктар тэалогіі кс. Ігар Лашук.

Актыўны ўдзел хрысціянскіх святароў у рабоце Кангрэса і ў навукова-асветнай дзейнасці ў краіне ў цэлым дае надзею на пераадоленне яшчэ існуючага супрацьпастаўлення навукі і рэлігіі, веры і розуму.

Тры пасяджэнні секцыі засведчылі вялікую цікавасць навукоўцаў да феномена хрысціянства ва ўсіх аспектах яго выяўлення, адсутнасць манаполіі матэрыялістычна-атэістычнага светапогляду, а таксама неабходнасць комплекснага вывучэння ролі хрысціянства ў беларускім нацыянальным быцці.

***Любоў Уладыкоўская-Канаплянік***

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ЕЎРАПЕЙСКАЯ КУЛЬТУРА

На секцыі я старшынстваваў разам з доктарам мастацтвазнаўства Віктарам Шматавым з Беларусі. Дакладчыкі гаварылі пра значэнне жыцця і шматграннай дзейнасці Ф. Скарыны для культуры і адукацыі беларускага народа, пра выкарыстанне ім заходнееўрапейскіх традыцый.

У першую чаргу мне хочацца адзначыць замежных удзельнікаў нашых пасяджэнняў. Гэта — Дональд М. Кодэр (ЗША), Андрэй Котлярчук (Расія), Надзія Непарожня (Літва). Прыслалі свае тэксты Раіса Жук-Грышкевіч (Канада), Леакадзія Мілаш (Літва). Шырока былі прадстаўлены Мінск (Уладзімір Агіевіч, Георгій Галенчанка, Ала Жардзецкая, Галіна Кірэева, Уладзімір Паўловіч, Тацццяна Рошчына, Віктар Шматаў), беларускія рэгіёны (Мікалай Палкаўнічэнка і Канстанцін Усовіч з Гомеля, Міхась Баўтовіч з Полацка, Ігар Жук з Гродна). Многія палажэнні прамоўцаў выклікалі ажыўленыя спрэчкі.

***Вальдэмар Дэлюга*** *(Польшча)*

## МОВАЗНАЎСТВА

Секцыя № 3 “Мовазнаўства” на працягу 22, 23 і 24 мая правяла чатыры пасяджэнні, на якіх было прачытана і абмеркавана 35 дакладаў і паведамленняў,

у тым ліку два даклады, не прадугледжаныя праграмай Кангрэса (па аднаму з Украіны і Беларусі), адзін перанесены па просьбе дакладчыка (А. Жлуткі) з "круглага стала" "Беларусь – Балтыя" і адзін перанесены з пленарнага пасяджэння (В. Чэкмонас з Літвы). Размеркаванне па краінах: Беларусь — 22 даклады; Польшча — 5; Украіна — 2; ЗША — 2; Літва — 1; Венгрыя — 1; Францыя — 1 і адзін даклад прадстаўлены змешаным, беларуска-ўкраінскім калектывам беларусістаў.

Пасяджэнні мелі пераважна тэматычна арыентаваны характар: "Сучасныя праблемы беларускага мовазнаўства", "Гісторыя беларускай мовы, анамастыка", "Сацыялінгвістыка", "Фразеалогія, дыялекталогія". Акрамя таго, шмат якія даклады, прачытаныя на іншых секцыях і "круглых сталах", тэматычна прымыкалі да прачытаных на секцыі "Мовазнаўства", што робіць мэтазгодным аб'яднанне ўсіх прадстаўленых да друку дакладаў у адной кнізе прац Кангрэса.



*Навуковую частку Кангрэса пачаў сваім дакладам праф. Мікалай Крукоўскі (справа). Праф. Анатоль Грыцкевіч (злева) быў адным з асноўных дакладчыкаў на секцыі «Хрысціянства і Беларусь». Фота БелТА*

Найбольш тэматычна скансалідаванай была праца секцыі ў час абмеркавання сацыялінгвістычнай праблематыкі, якая, дарэчы, закраналася і на іншых пасяджэннях. Гэта сведчыць пра тое, што актуальны стан беларускай мовы стымулюе навуковыя пошукі айчынных і замежных беларусістаў, якія маглі б вытлумачыць яго прычыны і перспектывы развіцця. Нявызначанасць асноў моўнай палітыкі, супрацьлеглыя тэндэнцыі ў маўленні, рэгіяналізацыя пэўных працэсаў у народнай мове, уздзеянне пазамоўных фактараў ствараюць сітуацыю, калі найбольш падыходзячымі метадамі даследавання робяцца сацыялінгвістычныя. Гэтая праблематыка асвятлялася ў дакладзе Курта Вулхайзера (ЗША), прысвечаным дыялектным дывергенцыям у беларускіх гаворках сучаснага польска-беларускага памежжа пад уплывам палітычных і эканамічных фактараў і ў калектыўным дакладзе Багдана Ажнюка (Украіна), Сяргея Запрудскага і Генадзя Лаўжаля (Беларусь), дзе на падставе матэрыялаў анкетавання ацэньваўся стан этнамоўных уяўленняў у Беларусі і Украіне. Сацыялінгвістычны погляд на чыннікі, тармазы і прыярытэты нацыянальнага адраджэння беларусаў быў прадстаўлены ў дакладзе Ніны Мячкоўскай (Беларусь). Лінгваэкалагічныя прабле-

мы функцыянавання моваў у Беларусі разглядаліся ў дакладзе Веранікі Курцовай (Беларусь), а статыстычныя паказчыкі моўнага выбару ў сістэме адукацыі Беларусі — у дакладзе Жана-П'ера Жанто (Францыя). Рэальны стан беларуска-рускага двухмоўя сярод дашкольнікаў асвятляўся ў дакладзе Наталлі Старжынскай (Беларусь), праблемы лінгвакраіназнаўства — у дакладзе Яўгена Іванова (Беларусь), погляды эміграцыі на стан і шляхі абароны беларускай мовы — у дакладзе Ніны Баршчэўскай (Польшча). Цікавыя вынікі назіранняў над моўнымі паводзінамі на падставе беларускіх лексікаграфічных выданняў 20-х гадоў прапанавала слухачам Ларыса Пісарэк (Польшча), а Іван Сінчук (Беларусь) выкарыстаў словаўтваральныя мадэлі антрапонімаў для характарыстыкі складу сацыяльнай групы т. зв. новых беларусаў.

Больш тэматычна "раскіданымі" былі даклады па сучаснаму стану і гісторыі беларускай мовы. Іх спектр быў дастаткова шырокім — ад інфармацыі пра капітальныя праекты даследавання беларускай мовы (Лілія Выгонная, Васіль Старычонак, Любоў Кунцэвіч — Беларусь) да канкрэтных назіранняў над інавацыйнымі працэсамі апошніх гадоў у мове недзяржаўных мас-медыя (Пётр Садоўскі — Беларусь). Выразны блок склалі даклады, прысвечаныя развіццю беларускай тэрміналогіі (Дзмітрый Паўлавец, Людміла Майсеня і Тамара Сухая — Беларусь), да якога прымыкалі даклады Галіны Малажай і Уладзіміра Анічэнкі (Беларусь) пра народныя крыніцы ўзбагачэння літаратурнай мовы і Альберта Барташэвіча (Польшча) аб канвергенцыйных працэсах у сучаснай беларускай мове. Пра лакальныя варыянты беларускай літаратурнай мовы ў 20-я гг. на матэрыяле марфалогіі паведаміла Аліцыя Борута-Садкоўскі (ЗША). Пра т. зв. славенскі фактар у развіцці беларускай і беларускі фактар у развіцці славенскай моваў паведаміў Генадзь Цыхун (Беларусь), пра венгерскія запазычанні ў гісторыі беларускай мовы — кіраўнік Венгерскай асацыяцыі беларусістаў Андраш Золтан (Венгрыя).

Другі тэматычны блок склалі анамастычныя даклады (Ганна Мезенка — Беларусь, Ала Свашэнка — Украіна, Алесь Жлутка — Беларусь, Базылі Ціханюк — Польшча), у якіх разглядаліся ўсе тыпы ўласных імён і прынцыпы іх транслітэрацыі, што з'яўляецца надзённай праблемай развіцця беларускай анамастыкі.

Назваўшы некалькі дакладаў, прысвечаных "занальнаму" падзелу беларускай моўнай тэрыторыі (Вера Астрэйка — Беларусь) і традыцыйнаму фразеалагічнаму накірунку, які апошнім часам паспяхова распрацоўваецца ў Беларусі (Мікола Аляхновіч) і ва Украіне (Маргарыта Жуйкова), можна было б скончыць разгляд асноўнай мовазнаўчай праблематыкі кангрэса, канстатаваўшы, што ён адлюстраваў новыя напрамкі даследаванняў у мовазнаўчай беларусістыцы і прыцягнуў увагу да іх новыя шэрагі маладых даследчыкаў з розных краін свету. І гэта асабліва выразна выявілася на першай сесіі кангрэса — пераважная большасць выступоўцаў упершыню выйшлі на трыбуну ўсясветнага форуму беларусістаў у 2000 г.

***Генадзь Цыхун***

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

На секцыі "Літаратуразнаўства" старшынствавалі Альма Лапінскене (Літва) і Уладзімір Гніламёдаў (Беларусь). Праграмны пералік удзельнікаў выглядаў даволі ўнушальна: 24 даклады і паведамленні па разнастайных пытаннях міжлітаратурнага ўзаемадзеяння і ўзаемаўзбагачэння навуковага пошуку, але, як гэта часта здараецца, не ўсе дакладчыкі з'явіліся ў патрэбны час і ў патрэбнае месца. На жаль, не было такіх знакамітых навукоўцаў-беларусістаў, як А. Ненадавец (Бабруйск), В. Таранеўскі (Віцебск), Л. Тарасюк (Мінск), Ц. Ліякумовіч (Чыкага, ЗША) і некаторых іншых. Аднак трэба сказаць, што форум атрымаўся змястоўным, багатым на навуковыя здабыткі і нават неспадзянкі. Да ліку апошніх я аднёс бы бліскучае выступленне Чэслава Сэнюха з Варшавы "Новая зямля" Якуба Коласа па-польску". Славуты перакладчык раскрыў эстэтычныя прынцыпы свайго мастацтва і падзяліўся некаторымі сакрэтамі творчай лабараторыі, сакрэтамі пераствярэння коласаўскага шэдэўра на мове Адама Міцкевіча. Тэарэтычныя абагульненні госць з Польшчы вельмі ўдала падмацаваў фрагментамі са сваёй работы ("Вялікдзень" і інш.). Выразная дэкламацыя Ч. Сэнюха мела вялікі поспех, і ўдзячныя слухачы не абмежаваліся апладысментамі, а паставілі пытанне аб эксклюзіўным выданні "Новай зямлі" на дзвюх мовах: у арыгінале і па-польску ў таленавітым перакладзе Ч. Сэнюха.

Запомніўся праблемны даклад калегі з Львова, вядомага паэта І. Лучука, які прапанаваў мадэль (ці архетып) сусветнага паэта, пераканаўча давёўшы, што ў Беларусі гэтай мадэлі па ўсіх параметрах упаўне адпавядаюць постаці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча.

Цікава гаварылі нашы вельмі дасведчаныя даследчыкі Г. Праневіч ("Сярэдневякоўе і мадэль станаўлення нацыянальнай рамантычнай традыцыі") і І. Штэйнер ("Злавесны цень ваўкалака як галоўны ўрок беларускай літаратуры апошніх двух стагоддзяў"), якія прааналізавалі духоўны вопыт айчыннай літаратуры і паспрабавалі далучыць яго да сучаснасці.

Добра былі ўспрыняты ўдзельнікамі секцыі даклады Л. Званаровай (Масква), А. Бразгунова, Ж. Некрашэвіч (Мінск), А. Каўкі (Масква). Апошні спыніўся на перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры — праблеме, якую ставіў у некаторых сваіх працах вядомы крытык і літаратуразнаўца замежжа А. Адамовіч.

З увагай мы слухалі даклад доктара гісторыі з Любліна (Польшча) Р. Радзіка "Бачанне ўзаемаадносін Беларусі з Польшчай, Расіяй у "Кароткай гісторыі Беларусі" В. Ластоўскага".

Даклад П. Васючэнкі быў прысвечаны пошукам слядоў сімвалізму ў беларускай літаратуры на ўзмежжы XIX–XX стст. У. Рагойша гаварыў пра Алеся Гаруна, У. Верына — пра беларускі авангард. У. Навумовіч зрабіў спробу раскрыць свет агульначалавечых каштоўнасцей у беларускай прозе.

Былі і іншыя выступленні. Мела месца дыскусія, у якой удзельнічалі Я. Міранович з Беластока (Польшча), Ч. Сэнюх, А. Каўка, І. Штэйнер, Л. Званарова, Г. Праневіч і інш.

Словам, дзень 23 мая для літаратуразнаўцаў аказаўся плённым, што яны і самі адзначылі пры падвядзенні вынікаў.

***Уладзімір Гніламёдаў***

## БЕЛАРУСЬ – КРАІНЫ ЗАХОДНЯЙ І ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЕЎРОПЫ

Нягледзячы на першапачатковыя маленькія тэхнічныя няўладкі пасяджэнні нашага “круглага стала” прайшлі паспяхова. З 19 заяўленых былі прадстаўлены 13 дакладаў. Іх тэмы добра паміж сабой звязваліся, “пакрылі” сабой дачыненні беларускай культуры з культурамі краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Разглядаўся як гістарычны, так і сучасны кантэкст. Літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, гісторыкі генеалогіі дапаўнялі адзін аднаго. Усе даклады былі на высокім навуковым узроўні, і таму цяжка кагосьці спецыяльна вылучыць. Хіба адзначу выступленні замежных гасцей: Эстэр Смолінка з Будапешта гаварыла пра ўспрыняцце беларускай паэзіі ў Венгрыі, а Галіна Твараовіч з Беластока — пра духоўныя каштоўнасці ў беларуска-сербскім кантэксце. Я ж прасачыла чэшскія традыцыі беларускага рукапіснага твора пра Тундала-рыцара.

Мінскія ўдзельнікі “круглага стала” Валянціна Выхота, Марына Елінская, Таццяна Казакова (сустаршыня пасяджэння), Аляксандр Кур’яновіч, Кацярына Любецкая, Вікторыя Ляшук, Сяргей Рассадзін, Уладзімір Сакалоўскі, Дзмітрый Санюк разгледзелі розныя аспекты беларуска-нямецкіх, беларуска-славацкіх і беларуска-французскіх грамадска-культурных сувязей, а Дзмітрый Крывашэй ахапіў сваім аналізам усе заходне- і паўднёваславянскія краіны (у 1991–1996 гг.). Усім ім — вялікая падзяка.

***Зора Кіпель** (ЗША)*

## БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

На двух пасяджэннях нашага “круглага стала”, які мне пашчасціла весці разам з дэканам факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта прафесарам Аляксандрам Шарапай, атрымаўся паўнацэнны беларуска-рускі навуковы “дуэт”, у якім, з аднаго боку, узялі ўдзел Валянцін Грыцкевіч, Мікалай Нікалаеў і Тамара Смірнова (усе трое — з Санкт-Пецярбурга), Вера Новік (Йашкар-Ала), а з другога — Анатоль Бабкоў (Гомель), Валерый Ярмоленка, Любоў Турбіна, Зінаіда Драздова, Ігар Шаладонаў, Таццяна Дасаева, Тэрэса Голуб (усе – з Мінска), Уладзімір Лебедзеў (Брэст), Святлана Іванова (Магілёў), Наталля Гардзей (Гродна), Валерый Шышанаў (Віцебск), Фаіна Ваданосава, Адам Прысынак, Наталля Гарустовіч, Анатоль Літвіновіч (усе — з Мінска).

Дакладчыкі прывялі пераканаўчыя факты і доказы, якія сведчаць пра ўзаемаўзбагачэнне беларускай і рускай культур у галіне мастацкай літаратуры, мовы,

мастацтва. Не абыходзіліся і складаныя, супярэчлівыя праблемы, якія ўзнікалі і ўзнікаюць у нашым узаемадзеянні.

***Юрый Сураўцаў** (Расія)*

## БЕЛАРУСЬ – УКРАІНА

Для ўдзелу ў "круглым стале" "Беларусь – Украіна" было заяўлена 11 дакладаў. На жаль, некаторыя навукоўцы не змаглі прыехаць на Кангрэс. Усяго выступіла 9 чалавек, у т. л. толькі двое з Украіны. Такім чынам, гэты "круглы стол" не быў такім шматлюдным і прадстаўнічым, як "Беларусь – Расія" і "Беларусь – Польшча". Аднак прачытаныя даклады былі змястоўныя, закраналі самыя розныя бакі і праблемы ўзаемасувязей беларускага і ўкраінскага народаў у галіне этнаграфіі, культуры, мовы, літаратуры, кнігазнаўства і інш. З вялікай цікавасцю прысутныя праслухалі выступленні А. Майсейчыка "Берасцейска-Пінскае Палессе і ўкраінская літаратура", В. Цітова пра беларусаў Чарнігаўшчыны канца XIX – пачатку XX ст., У. Ляхоўскага пра беларуска-ўкраінскія дачыненні студэнцкіх арганізацый першай паловы XX ст., Ж. Шаладонавай пра тыпалогію творчасці Я. Коласа і М. Кацюбінскага, А. Фурса пра лёс бібліятэкі Храптовічаў. Вядомы славіст з Украіны Р. Піўтарак, які шмат робіць па рэальным навукова-асветным забеспячэнні беларуска-ўкраінскага ўзаемадзеяння, свой даклад прысвяціў раскрыццю канцэпцыі і прынцыпаў укладання першага беларуска-ўкраінскага слоўніка, над якім ён цяпер працуе.



*Удзельнікі Кангрэса праф. Радзім Гарэцкі (справа) і паэт Генадзь Бураўкін (у цэнтры). Фота БелТА*

З-за нешматлікасці выступоўцаў вельмі шмат важных і цікавых тэм і праблем беларуска-ўкраінскіх дачыненняў не было асветлена, што ў цэлым сведчыць таксама аб слабым развіцці ўкраіністыкі ў Беларусі і беларусістыкі ва Украіне. Адзначаючы гэта, удзельнікі "круглага стала" аднадушна сышліся на думцы аб вялікай важнасці і актуальнасці далейшага пашырэння і паглыблення рознабаковых узаемасувязей паміж краінамі і народамі, іх большай актывізацыі, узмацнення кантактаў на розных узроўнях, абмену інфармацыяй, навуковай літаратурай і г. д. Вытокі гэтых сувязей сягаюць у далёкую мінуўшчыну

і маюць багатую гісторыю. Гэтым вытокам быў прысвечаны даклад В. Чамярыцкага.

Блізкасць гістарычных лёсаў, роднасць моваў і культур, плённасць шматвяковага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння паміж беларускім і ўкраінскім народамі, а таксама агульнасць нацыянальных задач на сучасным этапе патрабуюць напаўняць беларуска-ўкраінскія сувязі новым зместам, больш грунтоўна і сістэматычна іх даследаваць. Гэта, як паказвае вопыт гісторыі, у інтарэсах абодвух братніх народаў. Нацыянальная культура больш жыццяздольная, калі яна, моцна трымаючыся родных каранёў, творча жывіцца з розных і чыстых крыніц.

***Лідзія Карній*** *(Украіна),* ***Вячаслаў Чамярыцкі*** *(Беларусь)*

## З БАГАСЛАЎЛЕННЕМ ТЫХ, ШТО ПРАЦАВАЛІ НА ГЭТАЙ НІВЕ ДА НАС

### СЛОВА НА ЗАКЛЮЧНЫМ ПЛЕНАРНЫМ ПАСЯДЖЭННІ, ПРЫСВЕЧАНЫМ ДНЮ СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА

Шаноўныя делегаты і госці Кангрэса, калегі і сябры!

Дазвольце мне перш за ўсё павіншаваць вас з гэтай значнай падзеяй у культурным жыцці Беларусі, а таксама са святам Славянскага пісьменства і культуры, якое шчасліва супала з трэцім, завяршальным днём Кангрэса. Хачу пакарыстацца гэтай сустрэчай з вамі і пагаварыць пра некаторыя рэчы больш агульнага грамадскага характару, якія, на маю думку, маюць непасрэднае дачыненне і да праблематыкі Кангрэса і да жыццядзейнасці Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў наогул.

Усякае значнае свята, а тым больш такое значнае, як сённяшняе, — свята Слова, свята Пісьменства і Кнігі, свята Культуры, г. зн. усяго таго, што ёсць высокай і прыгожай выявай Духу, — трэба святкаваць у такіх умовах, каб нішто гэты дух не гняло, нішто не азмрачала святочнай урачыстасці, не клалася ценем на душу ні дарослага, ні дзіцяці. За жыццё сваё мне давялося двойчы, яшчэ ў 1963 і затым у 1967 г., пабачыць, як святкуецца гэтае свята ў Балгарыі. Ніколі і нідзе, ні раней, ні пасля, я не бачыў такой высокай узнёсласці пачуццяў і дум, такога шчырага буяння маладое вясновае радасці, такога натхнёнага гучання песень і музыкі, такога цеснага, кроўнага яднання нашчадкаў і прашчураў, мінулага і сучаснага.

Ідзі, адроджаны народзе,
Да светлай будучыні йдзі!

Было ўражанне, што ўся Балгарыя, не толькі людзі, але і долы і горы паўтараюць гэтыя пачатковыя радкі гімна ў гонар Кірылы і Мяфодзія.

Я радаваўся за братоў-балгараў і светлай зайздрасцю зайздросціў ім — іх настрою, іх дзяржаўнаму самапачуванню, іх здабытаму ў крывавых муках

шчасцю вось так вольна і молада святкаваць сваё самае прыгожае свята. І адзін Бог ведае, як у тыя хвіліны пачынала мне раптам балюча шчымець сэрца — ад горкай і цяжкай думы: а на маёй зямлі такога свята няма і невядома, ці калі-небудзь будзе; а мой народ ніколі вось так не яднаўся ў адзіным святочным пачуцці наўкол ідэі свабоднай і незалежнай Бацькаўшчыны, наўкол Роднага Слова як светача праўды, дабрыні і любові, як увасаблення нацыянальнай годнасці, неўміручасці нацыянальнага духу. І паўставалі са дна душы неадольныя пытанні: дык што ж гэта за доля наша такая? Хто пазбавіў нас права на такое свята, на такую ўрачыстасць душы, на такую бязмежную ўсенародную радасць? Хіба не ўсе народы перад Богам роўныя? Хіба наш народ нечым асабліва перад Ім правініўся?

Пытанні прымушаюць шукаць адказ. І для сябе асабіста я знайшоў яго даўно. З таго часу толькі тым і жыву, каб хоць трохі пасадзейнічаць набліжэнню моманту, калі гэткае ж вялікае, прыгожае і радаснае свята мы ўбачым і на сваёй беларускай вуліцы. Дзесяць гадоў назад паявіліся падставы думаць, што нам, беларусам, да свайго свята ўжо не так і далёка. І былі зроблены вельмі важкія крокі яму насустрач. Галоўны з іх — абвяшчэнне Беларусі суверэннай, незалежнай дзяржавай. На вялікі жаль, наш поступ да свайго ўсенароднага свята моцна затармазіўся. Дакладней — яго затармазілі нядобрыя, антыпатрыятычныя, антыбеларускія сілы. Шаноўныя госці, якія даўнавата ў нас не былі, напэўна, за гэтыя тры дні паспелі адчуць, убачыць і зразумець, што адбылося ў дзяржаве па імені Беларусь.

Натуральна, што мы, як і раней, разлічваем, дарагія сябры, беларусісты ў замежжы, на вашу маральную падтрымку і дапамогу. Дзякуй вам, што вы так шмат робіце для прапаганды ў сваіх краінах беларушчыны, нашай мовы, літаратуры і мастацтва, ведаў па гісторыі Беларусі, што вы з такім разуменнем ставіцеся да нашых вельмі складаных жыццёвых праблем. Праблем гэтых, зразумела, шмат, але між іх ёсць адна галоўная, праблема над праблемамі, ад вырашэння якой залежыць усё астатняе. Праблема гэта ўзнікла з усталяваннем у яшчэ неакрэплай нашай дзяржаве ладу, які ад самага пачатку ўзяў курс на ліквідацыю нашай незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Зусім зразумела, як павінна была ўспрыняць такі курс патрыятычна настроеная беларуская інтэлігенцыя. Пачалося вялікае і цяжкае процістаянне сіл, якое ўсё больш абвастраецца па меры таго, як улады ўсё гучней і пафасней вяшчаюць аб утварэнні адной дзяржавы, дзе нас, беларусаў, чакае прывольнае, заможнае, шчаслівае жыццё, адным словам — рай зямны. Але гэтым раем наш народ за сотні гадоў нацешыўся ўдосталь. Сотні гадоў, пазбаўлены сваёй уласнай дзяржаўнасці, ён не меў права на грамадскае карыстанне сваёй роднай мовай, на сваю нацыянальную школу, на сваю беларускую кнігу, на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, на вывучэнне і веданне сваёй уласнай гісторыі. І таму вяртацца назад, у мінулае, нам няма дзеля чаго. Не рай прыдуманы, а нармальнае чалавечае жыццё мы павінны забяспечыць сабе ў сваім уласным доме — у суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

Здавалася б, у гэтых законных нашых памкненнях лягчэй і лепш чым хтось іншы нас зразумее руская інтэлігенцыя. А хто ж яшчэ, калі не яна, — інтэлігенцыя вялікай і магутнай братняй краіны? Хто як хто, а яна, спадзяваліся мы, не павінна застацца раўнадушнай да лёсу братняга славянскага народа, хто як хто, а яна зразумее і падтрымае нас і дапаможа нам усталяваць і ўмацаваць сваю дзяржаўнасць.

На вялікі жаль, нашы жаданні і спадзяванні не апраўдаліся нават і ў самай малой меры. Самая горшая сітуацыя, калі гаварыць пра падтрымку вольнай Беларусі і беларушчыны, склалася сёння менавіта ў Расійскай Федэрацыі. Ганебную, хай Бог даруе мне гэта цяжкае слова, пазіцыю ў дачыненні да нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі заняла ў бальшыні сваёй руская інтэлігенцыя, у тым ліку — многія рускія літаратары, пісьменнікі, паэты. Каб хоць адзін раз прагучала на ўсю сілу іх слова ў абарону суверэннасці і незалежнасці Беларусі, у абарону нашай мовы і культуры! Наадварот, у адзін дух, у адзін голас з брутальнымі, нечыстаплотнымі палітыкамі і яны, дзеячы культуры, патрабуюць далучэння Беларусі да Расіі, г. зн. ліквідацыі самастойнай беларускай дзяржавы, што ў сваю чаргу азначае разлік на поўную і канчатковую русіфікацыю Беларусі, на канчатковую асіміляцыю беларускага народа. Дзесяцімільённага славянскага народа! У гэтых мэтах расійскія навукоўцы і літаратары выцягнулі з гістарычнай звалкі даўно здохлых ідэй і канцэпцый гнюсную тэорыю, паводле якой ніякіх трох усходнеславянскіх народаў няма, і ніякіх трох самастойных моў няма, а ёсць адзін рускі народ з адною рускаю моваю і двума дыялектамі — паўднёварускім і заходнерускім. Гэта вяшчаецца адкрыта, гучна, штодзённа людзьмі, якія лічацца ў расійскай навуцы і культуры высокімі аўтарытэтамі. Ужо ўвесь свет ведае, што гісторыя беларускага народа налічвае наймала тысячу гадоў — гэта гісторыя пісаная, а дапісьмовая, дахрысціянская і яшчэ працягваецца ўглыб на некалькі стагоддзяў. Свет ведае, а навуковая і мастацкая інтэлігенцыя Расіі — “не ведае”. І калі беларускія пісьменнікі, гісторыкі, філосафы, мастакі выказваюць абурэнне такой пазіцыяй сваіх расійскіх калегаў — апошнія крыўдзяцца і злуюцца. Сярдуюць шаноўныя, дарагія браты нашы! Як жа так, маўляў, як можна адрывацца ад адзінага цэлага! Пры гэтым яны не спыняюцца перад грубымі, абразлівымі выпадамі супроць беларускіх нацыянальна-патрыятычных сіл, супроць актыўных дзеячаў беларускага адраджэння.

Згадаю, як зрэагавалі госці з Масквы, расійскія літаратары, на апошні з’езд пісьменнікаў Беларусі. Слова ніхто з іх не ўзяў, зразумеўшы, што тое, з чым яны прыехалі, з’езд не прыме. Вярнуўшыся ж дадому, пачалі бэсціць на старонках прэсы і ўвесь наш з’езд, і яго асобных дэлегатаў, чые выступленні ім асабліва не спадабаліся. А чаму не спадабаліся? А таму што была сказана праўда пра пазіцыю рускай інтэлігенцыі ў дачыненні да Беларусі. Праўда і толькі праўда. Нам жа за гэта інкрымінуецца русафобія — ні больш, ні менш. Нас абвінавачваюць, што мы супроць дружбы Беларусі і Расіі, што мы заклікаем

адвярнуцца ад рускай культуры, літаратуры, навукі. Большай недарэчнасці шаноўныя браты нашы прыдумаць не могуць. Аказваецца, бараніць свабоду свайго народа, яго права на самастойнае дзяржаўнае існаванне, на развіццё сваёй нацыянальнай культуры, на карыстанне сваёй роднай мовай, — гэта русафобія, гэта справа злачынная. Усё, як бачым, перакулена дагары нагамі, і не зразумець, што гэта: нечуваны цынізм ці нейкая крайняя, звыродлівая бязглуздасць? Ну ясней жа яснага гаворым: мы, беларусы, нічога большага не хочам, апрача таго, што ўжо маюць усе славянскія народы; мы хочам жыць у свабоднай і суверэннай краіне; здабыўшы, нарэшце, незалежнасць, мы не хочам яе зноў страціць. І ніколі на гэта не пойдзем. Дык калі вы сапраўды інтэлігенты, г. зн. вызнаеце галоўныя прынцыпы дэмакратыі, свабоднага, раўнапраўнага супольства людзей і народаў, — то падтрымайце нас, беларусаў, у нашым імкненні да справядлівасці. Мы нічога, апрача справядлівасці, не патрабуем, нейкіх пераваг для сябе не вымагаем, не просім. Мы патрабуем толькі таго, што асвечана імёнамі самых вялікіх сыноў і дачок нашай зямлі на працягу 1000-гадовай гісторыі Беларусі. Таму наша патрабаванне — святое, як і наша права, і наша вера. Пакарыстацца гэтым высокім словам бадай асабліва выпадае сёння — у дзень вялікага свята славянскай цывілізацыі, у Дзень славянскага пісьменства і культуры. Думаючы пра гэтыя нашы вялікія, неабыдзённыя клопаты і гаворачы пра іх, мы адчуваем сёння спагаду, духоўную падтрымку і багаслаўленне не толькі святых зямлі нашай беларускай, але і святых іншых славянскіх краін і зямель, пачынаючы ад несмяротных першанастаўнікаў, стваральнікаў пісьма нашага, раўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія.



*Удзельнікі Кангрэса (злева направа) доктар Рышард Радзік (Польшча), Марыя Міцкевіч (Беларусь), Аляксандр Надсон (Вялікабрытанія)*

Шаноўныя, дарагія сябры і калегі! Будзем жа і далей працаваць, адчуваючы падтрымку і багаслаўленне тых, што працавалі на гэтай высакароднай ніве да нас — і вельмі-вельмі даўно, і зусім-зусім нядаўна. У імя ўсяго добрага і светлага на зямлі. На ўсёй зямлі — і на беларускай таксама.

***Ніл Гілевіч****, прафесар, народны паэт Беларусі*

## СПРАВАЗДАЧНА-ПЕРАВЫБАРЧАЕ ПАСЯДЖЭННЕ КАНГРЭСА

24 мая адбылося справаздачна-перавыбарчае пасяджэнне III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, на якім былі заслуханы даклады прэзідэнта ГА "МАБ" Адама Мальдзіса пра дзейнасць асацыяцыі за апошнія 5 гадоў (асноўныя тэзісы даклада надрукаваны ў № 4–5 "Кантактаў і дыялогаў") і старшыні Рэвізійнай камісіі Аляксандра Крывіцкага. Адбыліся выбары Камітэта МАБ, які цяпер уключае 21 чалавека. У склад Камітэта ўвайшлі: Мірдза Абала (Латвія), Моніка Банкоўскі (Швейцарыя), Альберт Барташэвіч (Польшча), Аляксандр Баршчэўскі (Польшча), Курт Вулхайзер (ЗША), Венета Георгіева-Казарава (Балгарыя), Джым Дынглі (Вялікабрытанія), Сяргей Запрудскі (Беларусь), Андраш Золтан (Венгрыя), Уладзімір Конан (Беларусь), Юрый Лабынцаў (Расія), Альма Лапінскене (Літва), Адам Мальдзіс (Беларусь), Аляксей Мікуліч (Беларусь), Мікалай Нікалаеў (Расія), Рыгор Піўтарак (Украіна), Таццяна Рошчына (Беларусь), Міхал Саевіч (Польшча), Віталь Скалабан (Беларусь), Любоў Уладыкоўская-Канаплянік (Беларусь), Генадзь Цыхун (Беларусь). Чатыры сябры Камітэта ад краін, прадстаўнікі якіх адсутнічалі на гэтым пасяджэнні, будуць дадаткова кааптаваны пад час правядзення асенняй сесіі Кангрэса.

Прэзідэнтам Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" быў абраны Адам Мальдзіс.

На пасяджэнні былі абраны пяць віцэ-прэзідэнтаў МАБ: Моніка Банкоўскі, Аляксандр Баршчэўскі, Курт Вулхайзер, Юрый Лабынцаў, Генадзь Цыхун. Вучоным сакратаром асацыяцыі стаў Сяргей Запрудскі.

На пасяджэнні таксама была абрана Рэвізійная камісія.

***Сяргей Запрудскі**, вучоны сакратар ГА "МАБ"*

## II КАНФЕРЭНЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

24 мая 2000 г., у час III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, дэлегаты і дакладчыкі з Беларусі сабраліся на сваю справаздачна-перавыбарчую канферэнцыю. З кароткім дакладам аб дзейнасці Рады Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў, выбранай у 1991 г., выступіў старшыня Рады Уладзімір Конан. За дзевяць гадоў, сказаў ён, былі набыткі і былі страты. У вечнасць адышлі ад нас выдатны вучоны доктар гістарычных навук Міхась Біч, кандыдат філасофскіх навук Сяргей Купцоў, таленавіты мастацтвазнавец, этнолаг і асветнік прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Міхась Раманюк, сусветна вядомыя філолагі Адам Супрун і Леў Шакун.

Нацыянальная асацыяцыя не з'яўляецца юрыдычнай асобай, у сваёй працы кіруецца Статутам ГА "МАБ". Але яна застаецца творчай і арганізацыйнай асновай МАБ. Яе сябры выступаюць дакладчыкамі на шматлікіх навуковых кан-

ферэнцыях, якія арганізоўвае і ў якіх удзельнічае Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Яны ж — аўтары асноўных публікацый у галіне гуманітарнай беларусістыкі, у тым ліку выданняў МАБ — бюлетэня "Кантакты і дыялогі", серыйных зборнікаў "Беларусіка = Albaruthenica", іншых кніг і брашур. Сярод найбольш актыўных у творчых і арганізацыйных адносінах дакладчык назваў суполкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка (кіраўнік старшы выкладчык Леанід Акаловіч), філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (кіраўнік дацэнт Любоў Тарасюк).

Пасля кароткага абмеркавання канферэнцыя прыняла рашэнне пашырыць склад Рады Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў, уключыць у яе прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый такіх цэнтраў беларусістыкі, як Гродна, Полацк, Віцебск, Брэст, Гомель. Гэтая "рэформа" дазволіць актывізаваць дзейнасць беларусістаў рэгіянальных цэнтраў, своечасова інфармаваць іх аб нашай арганізацыйнай і навукова-асветнай дзейнасці.

Адкрытым галасаваннем у склад Рады былі выбраны наступныя сябры ГА "МАБ": Анічэнка Уладзімір (Гомель), Акаловіч Леанід, Астапенка Анатоль, Бразгуноў Алесь, Гаранская Таццяна, Грудніцкі Рыгор (Полацк), Конан Уладзімір, Мажэйка Зінаіда, Марозава Святлана (Гродна), Пяткевіч Аляксей (Гродна), Рошчына Таццяна, Рагуля Аляксей, Свяжынскі Уладзімір, Сосна Уладзімір, Тарасюк Любоў, Хмяльніцкая Людміла (Віцебск), Шыбека Захар.

Вырашана восенню 2000 г., на другой сесіі Кангрэса, выбраць у склад Рады прадстаўнікоў ад беларусістаў Брэста, Магілёва, іншых рэгіянальных цэнтраў.

Старшынёй Рады Нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў выбраны загадчык аддзела ННАЦ імя Ф. Скарыны доктар філасофскіх навук, пісьменнік Уладзімір Конан.

***Таццяна Рошчына**, вучоны сакратар НАБ*

## ЗАКЛЮЧНЫ ДАКУМЕНТ

1. Удзельнікі Кангрэса выказваюць сардэчную падзяку за садзейнічанне ў яго правядзенні сузаснавальнікам Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" міністэрствам адукацыі, замежных спраў, культуры, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнаму навукова-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны, а таксама прэм'ер-міністру Беларусі Уладзіміру Ярмошыну за яго прывітанне Кангрэсу. Асабістая ўдзячнасць адрасуецца намесніку кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івану Пашкевічу, міністру замежных спраў Уралу Латыпаву, без спрыяння якіх быў бы немагчымы прыезд удзельнікаў з Балгарыі, Расіі і Украіны, міністру адукацыі Васілю Стражаву, які прыняў групу замежных удзельнікаў Кангрэса.

2. Выказваецца шчырая ўдзячнасць дабрадзеям — Дабрачыннаму фонду (Вялікабрытанія), які аплаціў прыезд і прабыванне ўдзельнікаў з Латвіі і Літвы,

Польскаму інстытуту ў Мінску, які аказаў садзейнічанне ўдзельнікам з Польшчы, праф. Анджэю Цеханавецкаму (Вялікабрытанія), ахвяраванне якога дазволіла прыехаць на Кангрэс шэрагу ўдзельнікаў з Віцебска, Магілёва і іншых гарадоў Беларусі, выдаць праграму і іншыя кангрэсавыя матэрыялы.

3. Удзельнікі Кангрэса канстатуюць значнае звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы ў апошні час, што звязана з асіметрыяй у сацыялінгвістычнай сітуацыі Беларусі. Выпраўленне гэтай сітуацыі патрабуе распрацоўкі і правядзення ў жыццё разумнай кампенсацыйнай палітыкі з боку навукоўцаў і ўрада, у адпаведнасці з дасягненнямі сучаснай сацыялінгвістычнай навукі.

4. Дзяржаўнаму камітэту па друку і Міністэрству культуры адрасуецца трывога з таго повулу, што ў апошні час рэзка скарацілася колькасць мастацкіх перакладаў з беларускай і на беларускую мову, змяншаюцца тыражы перакладных выданняў (прыемным выключэннем з’яўляецца самаахвярная праца выдавецтва “Беларускі кнігазбор”). У сувязі з гэтым рэкамендуецца выкарыстаць вопыт такіх краін, як Літва і Швецыя, дзе міністэрствы культуры фінансуюць штогод хаця б па аднаму выданню перакладаў з моваў сваіх суседзяў. У беларускім выпадку гэта магло б для пачатку быць штогод пяць кніг, якія прадстаўлялі б літаратуры памежных краін.

5. Удзельнікі Кангрэса звяртаюцца да пасольстваў Беларусі ў Латвіі і Латвіі ў Беларусі з просьбай аказаць дапамогу ў пошуках патэнцыяльных спонсараў сярод сумесных прадпрыемстваў і іншых мецэнатаў, якія фінансавалі б выданне беларуска-латышскага і латышска-беларускага слоўнікаў, падрыхтаваных сябрам асацыяцыі, вядомым латышскім філолагам Мірдзай Абалай.

6. Звяртаецца ўвага на недастатковую сувязь кіраўніцтва асацыяцыі з навуковай моладдзю Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Польшчы і іншых краін, якой у апошнія гады выдадзена нямала кніг пра Беларусь і арганізавана некалькі навуковых канферэнцый. На Захадзе разгортваецца рух, які ўмоўна можна назваць беларусалогіяй і які ставіць перад сабой пераважна палітычныя мэты. Асацыяцыя не павінна ад яго ізалявацца, але і не можа растварыцца ў ім.

7. Удзельнікі Кангрэса лічаць, што лепшыя даклады і паведамленні, якія прагучалі на першай і прагучаць на другой сесіях, павінны быць выдадзены ў шасці зборніках паводле навуковых накірункаў (“Хрысціянства і Беларусь”, літаратуразнаўства і скарыназнаўства, мовазнаўства, гісторыя і культуралогія, дыяспара, нацыянальная праблематыка). Кіраўніцтва асацыяцыі павінна забяспечыць навуковае рэдагаванне зборнікаў.

8. Яшчэ раз звярнуцца ў Беларускую камісію па справах ЮНЕСКО з просьбай, каб заяўлены грант на правядзенне другой сесіі Кангрэса і выданне матэрыялаў быў атрыманы своечасова, да пачатку другой сесіі (26–27 верасня 2000 г.).

9. У сувязі з абмежаванымі магчымасцямі лічыць мэтазгодным, каб кожны беларускі сябра асацыяцыі ўдзельнічаў у Кангрэсе толькі раз — у першай або другой сесіі. Выключэнне можа быць зроблена для сяброў Камітэта ў сувязі з неабходнасцю правесці на другой сесіі давыбары.

# ВЫНІКІ ЮБІЛЕЙНАГА КОНКУРСУ

22 мая, на першай сесіі III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, у час пленарнага пасяджэння, было ўручана дванаццаць ганаровых прызоў пераможцам конкурсу вучнёўскіх і студэнцкіх твораў на тэму “Францыск Скарына ў маім уяўленні” ў сувязі з 510-годдзем з дня нараджэння вялікага асветніка. Конкурс праводзіўся Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны. Прызы для пераможцаў набыў амерыканскі асветнік, удзельнік кангрэса Дональд Кодэр.

Хвалюючы момант “аб’яўлення вынікаў” — гэта, безумоўна, свята духоўнае. Вобраз Ф. Скарыны, вялікага гуманіста і асветніка, натхніў на творчасць сённяшніх вучняў сярэдніх школ, ліцэяў, гімназій рэспублікі, вучняў Вільнюскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны. Яны даслалі на конкурс свае вершы, апавяданні, літаратурна-крытычныя артыкулы, графічна-жывапісныя творы…

Кампетэнтнае журы вылучыла дванаццаць лепшых прац (сем з іх — літаратурныя, а пяць — выяўленча-мастацкія). Пры ацэнцы творчых работ удзельнікаў конкурсу ў першую чаргу ўлічваліся: выразная мастацкая мова твора, яркасць і вобразнасць тэксту ці жывапіснай кампазіцыі, творчая індывідуальнасць аўтара.



*Малюнак Аляксандры Прывада, вучаніцы 6 класа СШ № 9 г. Наваполацка*

Як паказалі вынікі конкурсу, маладыя таленты інтэрпрэтавалі конкурсную тэму шчыра, з пяшчотаю. Так, Яніна Каваленка, вучаніца Баравухскай школы-гімназіі № 15, метафарычна параўнала “рознакаляровыя літары”, якія прыдумаў Ф. Скарына, з “мілагучнай лістотаю восеньскіх дрэваў”, каб скласці з гэтых “лісцейкаў-літараў” сваё конкурснае сачыненне — “Славуты сын Полацкай зямлі”.

Як наватарскую хочацца адзначыць графічную кампазіцыю (“Вялікі суайчыннік”) Арсеня Данэліі, навучэнца Мінскай мастацкай школы пры БелАМ. Па-першае, гэта сінтэтычна-колеравая графіка і, па-другое, вобраз Ф. Скарыны інтэрпрэтуецца індывідуальна — як вобраз эпічна-трагедыйны.

Уразіла праца Дашы Гвоздзевай, вучаніцы 5-га класа Азёрскай школы, якая праілюстравала вядомы тэкст Ф. Скарыны “Понеже от прирожения” вясёлымі вобразна-колеравымі формамі: перламутравымі рыбкамі, жаўцюткімі тыгрыкамі ды інш.

Увогуле, літаратурныя і выяўленча-жывапісныя творы канкурсантаў можна ўпадобніць таму “маляванаму храму”, пра які сказала Алеся Паўлава, вучаніца 10-га класа з Полацка, у прачулым вершы “Сафійскаму сабору прысвячаецца”:

Я малявала Храм аднойчы,
каб жыў заўжды ў бліскучай раме,
каб захапляў людскія вочы
крыжом, званамі, купаламі…

Так, конкурс творцаў існаваў у вымярэнні таго духоўнага храма, што стварылі яны самі. Дык далучымся да гэтага свята талентаў, запалім свечку Скарынавага слова ў сваіх душах і павіншуем пераможцаў:

1. Ярашэвіч Кацю — за верш “Спатканне”.
2. Паўлаву Алесю, Глебку Паўла, Смалякова Кірыла — за фотапаэтычную кампазіцыю “І мудрасці яго адбітак”.
3. Макуценю Наталлю — за апавяданне “Беларуская Біблія”.
4. Каваленка Яніну — за эсэ “Славуты сын Полацкай зямлі”.
5. Рыбік Алену — за літаратурнае эсэ “Натхненне імем Маргарыта”.
6. Гілевіч Вольгу — за літаратурна-крытычны твор “Шэсць стагоддзяў”.
7. Шыдлоўскую Надзею за літаратурна-крытычны твор “Палачанін Францыск Скарына”.
8. Волкава Антона, Белавусаву Вікторыю, Шураўка Вікторыю, Саковіч Насцю (Мастацкая дзіцячая школа г. Крычава) — за серыю жывапісных малюнкаў.
9. Данэлію Арсеня — за твор “Вялікі суайчыннік” у серыі графічных малюнкаў.
10. Гвоздзеву Дашу — за ілюстрацыю да паэтычных слоў Ф. Скарыны “Понеже от прирожения”.
11. Бярнадскую Наталлю — за метафарычную выцінанку.
12. Мазіеву Ангеліну, Купрыянаву Веру, Садоўскага Іллю, Нікіценка Алену, Казлова Вячаслава (Бабруйская студыя “Вясёлка”) — за калекцыю жывапісных малюнкаў.

Асобнымі кніжнымі прызамі ўзнагароджваюцца вучні Вільнюскай сярэдняй школы імя Ф. Скарыны.

***Алена Ігнацюк**,*
*сакратар журы,*
*супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*

# УДЗЕЛЬНІКІ II СЕСІІ III МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА БЕЛАРУСІСТАЎ

## (ПАВОДЛЕ ПАДАДЗЕНЫХ АБО ПЕРАНЕСЕНЫХ ЗАЯВАК)

*Камітэт ГА "МАБ" намячае правядзенне сесіі на 26–27 верасня 2000 г. Аднак у сувязі з тым, што абяцаны грант ЮНЕСКО, на які мы ускладаем усе надзеі, можа спазніцца, не выключана, што тэрмін сесіі будзе перанесены, аб чым мы паведамім удзельнікам дадаткова.*

Акуневіч Віктар (Беларусь, Віцебск)
Аляксееў Леанід (Расія, Масква)
Амялькоў Анатоль (Беларусь, Мінск)
Астапенка Анатоль (Беларусь, Мінск)

Багдановіч Ірына (Беларусь, Мінск)
Банцэвіч Павел (Беларусь, Гродна)
Бартко Ладзіслаў (Славакія, Прэшаў)
Баршчэўскі Аляксандр (Польшча, Варшава)
Бялаказовіч Базылі (Польшча, Ольштын)
Бідэр Герман (Аўстрыя, Зальцбург)

Вабішчэвіч Аляксандр (Беларусь, Брэст)
Валодзіна Таццяна (Беларусь, Мінск)
Валодзька Станіслаў (Латвія, Даўгаўпілс)

Габрусевіч Сяргей (Беларусь, Гродна)
Галубовіч Віталь (Беларусь, Полацк)
Гапоненка Вольга (Беларусь, Мінск)
Гаранская Таццяна (Беларусь, Мінск)
Глагоўская Лена (Польшча, Гданьск)
Гудмантас Кястуціс (Літва, Вільнюс)

Дарашэнка Уладзімір (Украіна, Харкаў)
Дзербіна Галіна (Беларусь, Мінск)
Дубянецкі Эдуард (Беларусь, Мінск)
Дулічэнка Аляксандр (Эстонія, Тарту)
Дынглі Джым (Вялікабрытанія, Лондан)

Жытко Анатоль (Беларусь, Мінск)

Запруднік Ян (ЗША, Нью-Йорк)
Запрудскі Ігар (Беларусь, Мінск)
Зялінскі Багуслаў (Польшча, Познань)

Іваноў Сяргей (Беларусь, Верхнядзвінск)
Ількевіч Мікалай (Расія, Смаленск)

Кабржыцкая Таццяна (Беларусь, Мінск)
Кавалёва Аляксандра (Украіна, Харкаў)
Кадол Фёдар (Беларусь, Гомель)
Каніцкая Алена (Літва, Вільнюс)
Капчык Пятрусь (Украіна, Ізяслаўль)
Каранеўская Вольга (Беларусь, Мінск)
Каранфілоўскі Максім (Македонія, Скопле)
Карлюкевіч Алесь (Беларусь, Мінск)
Кароткі Віктар (Украіна, Кіеў)
Каўн Сяргей (Беларусь, Мінск)
Кліменка Валянціна (Латвія, Рыга)
Козак Кузьма (Беларусь, Мінск)
Космач Генадзь (Беларусь, Мінск)
Котлярчук Андрэй (Бранск, Расія)
Круповес Марыя (Літва, Вільнюс)
Крывадубская Наталля (Беларусь, Мінск)
Кулажанка Лідзія (Беларусь, Мінск)
Куль-Сяльверстава Святлана (Беларусь, Гродна)

Кушнер Васіль (Беларусь, Мінск)

Лабынцаў Юрый (Расія, Масква)
Лазько Рыгор (Беларусь, Гомель)
Лапінскене Альма (Літва, Вільнюс)
Лецка Ксенафонт (Беларусь, Гродна)
Латышонак Алег (Польшча, Беласток)
Лозка Алесь (Беларусь, Мінск)
Лойка Павел (Беларусь, Мінск)
Лыч Леанід (Беларусь, Мінск)
Ляхоцкі Уладзімір (Украіна, Кіеў)

Мазько Эдуард (Беларусь, Гродна)
Мархель Уладзімір (Беларусь, Мінск)
Маслава Валянціна (Беларусь, Віцебск)
Матус Ірэна (Польшча, Беласток)
Мацяш Ірына (Украіна, Кіеў)
Мікуліч Мікалай (Беларусь, Гродна)
Міхальчанка Сяргей (Расія, Бранск)
Міцкевіч Марыя (Беларусь, Мінск)
Мішкінене Галіна (Літва, Вільнюс)
Мыцык Юрый (Украіна, Кіеў)

Надсон Аляксандр (Вялікабрытанія, Лондан)
Насовіч Уладзімір (Польшча, Беласток)
Нікалаеў Мікалай (Расія, Санкт-Пецярбург)
Ніканчук Мікалай (Украіна, Жытомір)
Новак Валянціна (Беларусь, Гомель)

Паўленка Ларыса (Украіна, Луцк)
Плыгаўка Лілея (Літва, Вільнюс)
Пушкін Ігар (Беларусь, Магілёў)
Пятровіч Наталля (Беларусь, Мінск)

Рагойша Вячаслаў (Беларусь, Мінск)
Радзік Рышард (Польшча, Люблін)
Рудовіч Станіслаў (Беларусь, Мінск)
Рыер Якаў (Беларусь, Магілёў)

Сакалоўская Ала (Беларусь, Мінск)
Семакова Сільвія (Славакія, Браціслава)
Сівэк Беата (Польшча, Варшава)
Скапненка Аляксандр (Украіна, Кіеў))
Смалянчук Алесь (Беларусь, Гродна)
Смулкова Эльжбета (Польшча, Беласток)
Сокалава Францішка (Чэхія, Прага)
Супей Наталля (Беларусь, Мінск)
Сямешка Лідзія (Беларусь, Мінск)
Сяргеева Галіна (Беларусь, Мінск)

Тарасюк Дар'юш (Польшча, Люблін)
Токць Сяргей (Беларусь, Гродна)
Трацяк Іван (Беларусь, Гродна)
Тугай Уладзімір (Беларусь, Мінск)
Тычка Галіна (Беларусь, Мінск)
Тэмчын Сяргей (Літва, Вільнюс)

Феданюк Валянціна (Украіна, Кіеў)
Федарук Анатоль (Беларусь, Мінск)
Франц Норберт (Германія, Патсдам)

Целеш Вячка (Латвія, Рыга)
Цімошчанка Барыс (Украіна, Львоў)
Ціхаміраў Аляксандр (Беларусь, Мінск)

Чувак Святлана (Беларусь, Гродна)

Швед Вячаслаў (Беларусь, Гродна)
Шоке Лайош (Венгрыя, Эгер)
Шыдлоўскі Канстанцін (Беларусь, Браслаў)
Шынкарэнка Вольга (Беларусь, Гомель)

Энгелькінг Анна (Польшча, Беласток)

Якаўлеў Сяргей, Бароўка Ванда (Беларусь, Віцебск)
Яніцкі Міхаіл (Беларусь, Брэст)
Янушкевіч Язэп (Беларусь, Мінск)





*Рыгор Піўтарак (Кіеў)*

## ПЕРШЫ ПЕРАКЛАДНЫ БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІ СЛОЎНІК (КАНЦЭПЦЫЯ І ПРЫНЦЫПЫ ЎКЛАДАННЯ)

**Рыгор Піўтарак** — доктар філалагічных навук, прафесар, членкарэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Аўтар падручніка па беларускай мове для ўкраінцаў. Адзін з заснавальнікаў МАБ у 1991 г.

Украінскі і беларускі народы здаўна з’ядназаны мастамі дружбы і братэрства. Як вядома, яны маюць шмат агульнага ў гістарычным лёсе, мове, песнях, паданнях, звычаях, таму заўсёды адчувалі патрэбу ў пастаянных зносінах, бесперапынным абмене жыццёвым і культурным вопытам. Жывы інтарэс украінцаў да грамадска-палітычнага і культурнага жыцця беларускага народа асабліва ўзрос у сучасных, посткамуністычных, умовах адраджэння і развіцця нашых суверэнных дзяржаў.

Украінская грамадскасць успрымае сучасную Беларусь як высокаразвітую еўрапейскую дзяржаву, якая, хоць і перажывае цяпер часовыя спецыфічныя цяжкасці, але мае магутны эканамічны і навукова-тэхнічны патэнцыял, багатую духоўную культуру, арыгінальную мастацкую літаратуру, самабытнае прафесійнае і народнае мастацтва. Таму ў наш час не толькі ўкраінскія пісьменнікі і творчая інтэлігенцыя, але і прадстаўнікі тэхнічных прафесій, значная частка маладога пакалення ўсё больш заўважна імкнуцца глыбока і ўсебакова пазнаць духоўныя каштоўнасці братняй Беларусі, чытаць у арыгінале класікаў беларускай літаратуры і сучасную перыёдыку, паспрабаваць свае сілы ў перакладзе беларускіх твораў. З другога боку, Украіна стала другой Бацькаўшчынай для амаль 500 тысяч беларусаў. Адарваныя ад свайго краю, яны не мелі спрыяльных умоў для вывучэння роднай мовы, і пераважная іх большасць ёю не валодае. Цяпер і ў іх паступова абуджаецца нацыянальная свядомасць, патрэба ў родным слове, і для вывучэння роднай мовы ім неабходны адпаведныя падручнікі і слоўнікі.

Для вывучэння беларускай мовы ва Украіне нядаўна быў выдадзены першы і пакуль што адзіны мой падручнік для вучняў агульнаадукацыйных школ, гімназій, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў [1]. Ён можа быць выкарыстаны таксама як самавучыцель беларускай мовы. Аднак авалоданне беларускай мовай немагчыма без беларуска-ўкраінскага слоўніка. У гісторыі ўкраінска-беларускіх этнамоўных і культурных адносін такога слоўніка дагэтуль не было, і ўсе пераклады з беларускай мовы на ўкраінскую ажыццяўляліся праз пасрэдніцтва беларуска-рускіх слоўнікаў.

Украінскія беларусісты лічаць укладанне і выпуск беларуска-ўкраінскага слоўніка не толькі даўно наспелай задачай, але і нашым маральным абавязкам, справай гонару ўкраінскага мовазнаўства, паколькі ў Беларусі ўжо даўно выйшаў украінска-беларускі слоўнік [2].

Таму цяпер у Інстытуце мовазнаўства імя А. А. Патабні НАН Украіны мы ўкладаем агульнамоўны перакладны беларуска-ўкраінскі слоўнік (на гэты час укладзена прыблізна палова слоўніка). Яго аўтары — член-карэспандэнт НАН Украіны, доктар філалагічных навук, прафесар Р. Піўтарак і навуковы супрацоўнік Аддзела агульнаславістычнай праблематыкі і ўсходнеславянскіх моваў Інстытута мовазнаўства НАН Украіны кандыдат філалагічных навук А. Скапненка. Гэта будзе кампактны, зручны для карыстання слоўнік, у які ўвойдзе прыблізна 25 тыс. рэестравых слоў (агульны аб'ём слоўніка каля 45 аркушаў). Ён будзе даваць дастатковы аб'ём інфармацыі і задавальняць найвастрэйшыя практычныя патрэбы пры перакладзе разнастайных тэкстаў з беларускай мовы на ўкраінскую. Гэты слоўнік прызначаецца для шырокага кола літаратараў, журналістаў, навуковых супрацоўнікаў, студэнтаў і ўсіх тых, хто імкнецца вывучыць беларускую мову або, прынамсі, бліжэй, непасрэдна пазнаёміцца з беларускай літаратурай розных жанраў. Ён стане багатай крыніцай засваення спецыфічнага нацыянальнага фонду беларускай лексікі для вучняў сярэдніх школ і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ, а таксама будзе карысным для вывучэння ўкраінскай мовы беларускамоўнымі чытачамі.

Беларуска-ўкраінскі слоўнік укладаецца па дыферэнцыяльнаму прынцыпу, г. зн. у яго ўключаецца пераважна агульнаўжывальная лексіка сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а таксама найбольш пашыраныя ў беларускай літаратуры размоўныя словы, архаізмы і дыялектызмы, якія істотна адрозніваюцца ад украінскіх адпаведнікаў. Асаблівая ўвага ўдзяляецца беларуска-ўкраінскім міжмоўным амонімам (так званым "фальшывым сябрам перакладчыка"). Напрыклад, бел. **дыван** "тканы варсісты ўзорчаты выраб", рус. *ковер*, укр. *килим*, а ўкр. *диван* — гэта "канапа"; бел. **лунаць** "плаўна лятаць, рухацца, развявацца ў паветры; знаходзіцца ў стане ўзвышаных або далёкіх ад рэчаіснасці пачуццяў", а ўкр. *лунати* — "гучаць". Аднак з мэтай захавання пэўных лексікаграфічных прынцыпаў у слоўнік уключаны і некаторыя апорныя беларускія лексемы, якія не маюць істотных фанетыка-арфаграфічных адрозненняў ад украінскіх адпаведнікаў, але вытворныя формы ад якіх адрозніваюцца настолькі, што ўскладняюць іх семантызацыю і патрабуюць перакладу.

У слоўніку прыводзіцца шмат характэрных для беларускай мовы словазлучэнняў і фразеалагічных зваротаў, якія часта ўжываюцца ў беларускай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры. У прыватнасці, будуць зафіксаваны словазлучэнні, у якіх састаўныя кампаненты ў беларускай мове адрозніваюцца ад украінскіх. Напрыклад, беларускаму прыметніку **лугавы** адпавядаюць украінскія *лучний* і *луговий*, але некаторыя словазлучэнні з гэтым прыметнікам патрабуюць перакладу: бел. **л. матыль** лучний (луговий) метелик, ~**выя глебы** лучні (лугові) ґрунти, бел. ~**выя краскі** лучні (лугові) квіти (а не "фарби") і т. п.

Першы беларуска-ўкраінскі слоўнік дасць цікавы і вычарпальны (прынамсі, на ўзроўні літаратурных моваў) матэрыял для параўнальных і параўнальна-тыпалагічных даследаванняў лексічных сістэм украінскай і беларускай моваў. У прыватнасці, будуць досыць поўна пададзены лексемы-назоўнікі, якія ў беларускай і ўкраінскай мовах належаць да розных граматычных родаў, маюць living рознае месца націску. Напрыклад, у беларускай мове назоўнікі *алей, вуаль, галош, медаль, пачак, цень, шаль, шынель* і некаторыя іншыя — мужчынскага роду, а ва ўкраінскай мове — жаночага: *олія, вуаль, калоша, медаль, пачка, тінь, шаля, шинеля;* назоўнікі *ложак, цуд, яблык* у беларускай мове — мужчынскага роду, а ва ўкраінскай *ліжко, чудо, яблуко* — ніякага роду; назоўнік *брыво* ў беларускай мове ніякага роду, ва ўкраінскай мове *брова* — жаночага роду.




Асабліва паказальныя беларуска-ўкраінскія адрозненні ў акцэнтуацыі слоў, як, напрыклад, бел. *агля́д* — укр. *о́гляд, агрэ́ст — а́грус, аку́нь — о́кунь, анёл — а́нгел, бры́дкі — бридки́й, ва́пна — вапно́, віхо́р — ви́хор, высо́ка — ви́соко, га́ньба — ганьба́, гліня́ны — гли́няний, даве́дка — до́відка, дазво́л — до́звіл, дзе́яч — дія́ч, дзяўчы́на — ді́вчина, зало́за — за́лоза, захо́дні — за́хідний, каро́тка — ко́ротко, кве́тнік — квітни́к, ко́лісь — коли́сь, ле́гчы — лягти́, ло́пух — лопу́х, лязо́ — ле́зо, маладо́сць — мо́лодість, мо́мант — моме́нт, мэ́та — мета́, мя́ккі — м’яки́й, наспе́х — на́спіх, падле́так — підліток, па́мятаць — пам’ята́ти, прыгажо́сць — приго́жість, святло́ — сві́тло, су́мны — сумни́й, уно́чы — уночі́, упе́рад — уперéд, ця́лкам — цілко́м, царква́ — це́рква, чарга́ — че́рга, чо́рствы — черстви́й, шыро́ка — ши́роко* і інш.

Беларуска-ўкраінскі слоўнік змяшчае і агульныя для абедзвюх моваў лексемы, якія ў кожнай мове маюць розны літаратурны ці стылістычны статус. Напрыклад, да беларускага слова *позірк* існуе ўкраінскі адпаведнік *погляд,* але ў дыялектах даволі пашыраны і *позирк*; ва ўкраінскай мове назоўнік *чоло* — звычайная літаратурная форма, а беларускія слоўнікі да *чало* даюць рэмаркі *застарэлае* і *паэтычнае.*

У рэестр беларуска-ўкраінскага слоўніка свядома не ўключаліся словы, якія пры перакладзе не выклікаюць ніякіх цяжкасцей або для семантызацыі якіх дастаткова элементарнае знаёмства са спецыфічнымі асаблівасцямі беларускай графікі, фанетыкі і граматыкі, а іменна: словы, абсалютна тоесныя па напісанню і значэнню (бел. і ўкр. *баба, брат, голуб, каштан, куток, лапа, латка, мова,*

*рука, сажа, сон, табло, там, танк, туман, хіба, храм, чумак, шлях, яма* і шмат падобных); словы, якія маюць толькі арфаграфічныя адрозненні, абумоўленыя пэўнымі заканамернасцямі беларускай мовы (бел. *варона, галава, дарога, дзень, жыццё, жэрдка, ціха, чырвоны, чэсны, шчасце, шчотка, шэсць, рэзаць, сэрца* і т. п.), уласныя імёны, геаграфічныя назвы і абрэвіятуры, а таксама іншамоўныя словы, уласцівыя ўсім усходнеславянскім мовам або толькі беларускай і ўкраінскай, застарэлая, дыялектная і тэрміналагічная лексіка, адсутная або рэдка ўжывальная ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

Наш беларуска-ўкраінскі слоўнік адлюстроўвае найнавейшыя дасягненні беларускай лексікаграфіі. Ён ствараецца на базе "Беларуска-рускага слоўніка" ў 2-х т. і "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" ў 5-ці т., але улічвае дадзеныя таксама іншых сучасных беларускіх дыялектных, фразеалагічных, арфаграфічных і іншых слоўнікаў.

Будова слоўнікавых артыкулаў грунтуецца на традыцыях беларускай лексікаграфіі. Рэестравыя словы ў слоўніку размешчаны ў строга алфавітным парадку. Кожны слоўнікавы артыкул, як правіла, змяшчае адно беларускае слова. Да беларускіх слоў і словазлучэнняў прыводзяцца найдакладнейшыя ўкраінскія адпаведнікі. Апісальны пераклад даецца толькі тады, калі беларускае слова не мае ва ўкраінскай мове адэкватнага адпаведніка. Напрыклад, **абле́тнік, -у** *ч. обл.* дрова, заготовлені весною на зиму; **калашма́н** *ч. розм.* людина в широких штанях; **лоўж** , *род.* **лаўжа́** купа хмизу (гілля, вітролому, ломаччя), **ляшыць** *обл.* розбивати ділянку землі на смуги.

У беларускіх шматзначных словах кожнае значэнне выдзяляецца ў слоўнікавым артыкуле арабскімі лічбамі; адпаведнікі да кожнага значэння аб'ядноўваюцца ў асобныя групы і нумаруюцца. Калі ж розныя значэнні беларускага слова перакладаюцца аднолькавымі ўкраінскімі адпаведнікамі, падзел на значэнні, як правіла, не робіцца.

Калі беларускае слова ўжываецца толькі ў пэўным словазлучэнні, то пасля такога слова ставіцца двухкроп'е, а далей прыводзіцца адпаведны выраз і даецца яго пераклад. Пры гэтым украінскі адпаведнік можа быць як фразеалагізмам, так і свабодным словазлучэннем:

бел. **абве́сны: абве́сны лад** *грам.* дійсний спосіб.

**адыхо́дак: на адыхо́дак** на прощання.

**аво́хці: аво́хці мне** ой леле! (лелечко!), ой лихо! (лишенько!).

лу́каткі**: хадзі́ць у лу́каткі** ходити зиґзаґом (зиґзаґами).

Належная ўвага ў слоўніку ўдзяляецца беларускім словам-сінонімам і антонімам. Калі рэестравае беларускае слова мае часцей ужываны або стылістычна нейтральны сінонім, такое слова без рэмарак, памет і перакладу адсылаецца да сіноніма, дзе даюцца неабходныя паметы і прыводзяцца ўкраінскія адпаведнікі.

Беларускія амонімы, г. зн. словы з аднолькавым напісаннем, але розныя па значэнню, даюцца асобнымі артыкуламі, якія пазначаюцца справа ўгары

арабскімі лічбамі. Калі амонімы азначаюць розныя часціны мовы, пры кожным з іх даецца адпаведная граматычная памета, напрыклад:

**па́лка** [1] *імен. ж.* па́лиця.

**па́лка** [2] *присл.* па́лко, полум'яно.

Пры амонімах з розным месцам націску лічбавыя паметы не падаюцца:

**му́ка** *ж.* покэта, страждáння *с.*

**мука́** *ж.* бо́рошно *с.*

Пры рэестравых беларускіх назоўніках паслядоўна пазначаецца граматычны род (*ч., ж., с.*). Украінскія назоўнікі-адпаведнікі маюць памету граматычнага роду толькі тады, калі ён не супадае з родам беларускага назоўніка. Назоўнікі агульнага роду выдзелены паметамі *ч.* і *ж.*

Каб даць украінскаму чытачу паўнейшую інфармацыю пра граматычныя асаблівасці беларускай мовы, пры многіх беларускіх словах адзначаюцца і некаторыя іх дадатковыя граматычныя формы, у прыватнасці, канчаткі роднага склону адзіночнага і множнага лікаў тых назоўнікаў і займеннікаў, утварэнне або напісанне якіх можа выклікаць пэўныя цяжкасці [калі пры назоўніках мужчынскага роду форма роднага склону не даецца, гэта значыць, што яны маюць канчатак -а (-я)].

Дзеясловы змешчаны, як правіла, у форме незакончанага (па традыцыі прыводзяцца на першым месцы) і законачанага трывання пераважна ў адным слоўнікавым артыкуле. Асобнымі артыкуламі дзеясловы незакончанага і законачанага трывання даюцца толькі тады, калі кожная з гэтых форм мае своеасаблівы фанетычны склад, патрабуе дадатковых тлумачэнняў, а часам і тады, калі дзеяслоў незакончанага трывання мае дзве ці больш паралельныя формы (*аблягáць — аблéгчы, абвяшчáць — абвясцíць, абмяркóўваць — абмеркавáць, акóрваць — акары́ць; ахалóджваць і ахаладжáць — ахаладзíць; адтрасáць і адтрэсваць — адтрэсці* і т. п. У такіх выпадках слоўнікавыя артыкулы ўзаемна звязваюцца адсыланнем *див. ще.*

Калі дзеяслоў у форме незакончанага трывання істотна не адрозніваецца ад адпаведнай украінскай формы, а форма законачанага трывання структурна адменная або яе семантызацыя выклікае пэўныя цяжкасці, такі дзеяслоў даецца як рэестравы толькі ў форме законачанага трывання:

**абдзьму́ць** *док.* обду́ти.

**абве́сці** *док. у різн. знач.* обвести, але **абдзіма́ць, абво́дзіць,** згодна з прынятымі прынцыпамі, у слоўніку не даюцца.

У некаторых складаных словаўтваральных выпадках пры рэестравым дзеяслову-інфінітыве даецца форма мінулага часу мужчынскага роду законачанага трывання:

**абве́ргнуць** *мин.* абве́рг, -ла.

Зваротныя дзеясловы на **-цца**, згодна з беларускай лексікаграфічнай традыцыяй, даюцца асобнымі рэестравымі словамі: *абрысава́цца, абцяжа́рвацца, абтрэсціся, бадзяцца, валту́зіцца, выграва́цца, габлява́цца, дапасава́цца* і т. п.

Каб даць паўнейшую характарыстыку беларускага рэестравага слова, адзначыць сферу яго сучаснага ўжывання, а таксама паказаць адрозненне паміж украінскімі адпаведнікамі, у слоўніку шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя тлумачальныя рэмаркі, граматычныя і стылістычныя паметы, якія даюцца паводле лексікаграфічных традыцый.

Граматычныя паметы паказваюць належнасць слова да пэўнай часціны мовы, род, лік, склон, ступень параўнання ў прыметніках і прыслоўях, трыванне, стан і т. п.

Стылістычныя паметы характарызуюць сферу ўжывання слова (*розм., діал., поет., заст., перен., спец., рідк.* і інш.); некаторыя паметы падкрэсліваюць спецыяльную сферу ўжывання слова (*бот., геол., мед., кул., с.-г., техн.* і т. п.), пэўную эмацыянальную афарбоўку слова (*жарт., ірон., лайл., фам., знев.* і інш.).

Паколькі ў беларуска-ўкраінскі слоўнік не ўключаліся словы, якія маюць толькі арфаграфічныя адрозненні, абумоўленыя асаблівасцямі беларускай азбукі, заканамернасцямі беларускай фанетычнай і граматычнай сістэм (аканне, яканне, дзеканне, цеканне, паслядоўна цвёрдыя шыпячыя і *р*, канчаткі прыметнікаў на *-ы*, інфінітывы на *-ць, -чы,* словы са спецыфічнымі павелічальнымі і памяншальна-ласкальнымі суфіксамі і інш.), мы ўпершыню ў лексікаграфічнай практыцы даем у канцы прадмовы даволі разгорнутыя звесткі пра найважнейшыя асаблівасці беларускай фанетыкі, марфалогіі і арфаграфіі. Яны, безумоўна, палегчаць карыстанне слоўнікам і будуць спрыяць глыбейшаму знаёмству чытачоў з беларускай мовай, якія, акрамя слоўніка, магчыма, не будуць мець іншых даведнікаў, а тым больш падручнікаў па беларускай мове.

Мы спадзяемся, што выхад у свет “Беларуска-ўкраінскага слоўніка” будзе спрыяць узмацненню цікавасці ва Украіне да беларускай мовы, літаратуры і культуры наогул, ажывіць перакладчыцкую дзейнасць сярод пісьменнікаў і аматараў “прыгожага пісьменства”, будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню традыцыйнай дружбы і супрацоўніцтва нашых народаў.

---

[1] Півторак Г. Білоруська мова: Підручник. Київ, 1997.

[2] Лемцюгова В. П. Украінска-беларускі слоўнік. Мн., 1980.



## З СУСВЕТНАГА ПАТОКУ НАВІН

~ ~

Дзякуючы ініцыятыве Севастопальскага таварыства беларусаў “Бацькаўшчына” імя Максіма Багдановіча адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы падарункаў музею горада Дуброўна, дзе нарадзіўся легендарны герой расійскага флоту *Аляксандр Казарскі*. Сярод будучых экспанатаў — трохтонны адміралцейскі якар, кнігі, прысвечаныя нашаму суайчынніку, фатаграфіі яго помніка ў Севастопалі.

*Моніка Банкоўскі (Цюрых, Швейцарыя)*

# ШЛЯХІ І ТУПІКІ АДНАГО ПРАЕКТА

## БЕЛАРУСЬ У ЕЎРАПЕЙСКІХ ПАДАРОЖНЫХ АПІСАННЯХ XV–XX СТСТ.: СТВАРЭННЕ БІБЛІЯГРАФІІ (БАЗЫ ДАДЗЕНЫХ)

### Не дужа цікавіла даследчыкаў…

Сярод беларускіх публікацый і даследаванняў апошніх гадоў па гістарычных і культурных узаемасувязях паміж Беларуссю і Захадам прасочваецца адна тэма, якая прыцягвае, на мой погляд, здзіўляюча мала ўвагі, а менавіта: Беларусь у сведчаннях чужаземных падарожнікаў. Бясспрэчна, на гэта ёсць розныя прычыны, адной з немалаважных, мабыць, з’яўляецца ўскладнены доступ да крыніц. Тое, што ў 1980 г. у сваёй прадмове канстатавалі Валянцін Грыцкевіч і Адам Мальдзіс, аўтары бадай ці не адзінай кніжнай публікацыі на гэтую тэму, аказваецца сапраўдным і цяпер, дваццаць год пасля: “Многае яшчэ не выяўлена, не ўведзена ў навуковы ўжытак. Тэма, узятая аўтарамі гэтых радкоў, раней не дужа цікавіла даследчыкаў” [1].

**Моніка Банкоўскі** — загадчык славянскага аддзела Гарадской бібліятэкі ў Цюрыху, выкладчыца Цюрыхскага універсітэта. Аўтар прац пра беларуска-швейцарскія культурныя сувязі. Адна з заснавальніц МАБ у 1991 г.

Указанне на адсутнасць даследаванняў і спадзяванні на ўзбуджэнне цікавасці засталіся незаўважанымі. Да гэтага часу няма ні навуковай распрацоўкі, ні бібліяграфічнага даведніка [2], ні нават анталогіі саміх падарожных тэкстаў. Заслужаны “Беларускі кнігазбор”, па праўдзе, у выдавецкі план-каталог сваёй серыі “Мастацкая літаратура XI–XVIII ст.” уключыў і зборнік “Нататкі іншаземных падарожнікаў пра Беларусь”, аднак хуткага выхаду не чакаецца [3]. Са спробай хаця б частковай бібліяграфіі, датычнай таксама адных толькі старэйшых сведчанняў, выступалі незалежна адзін ад аднаго два беларускія даследчыкі на ўласных WEB-сайтах у Інтэрнэце [4], дзейнасць якіх, відавочна, ужо спынілася. Пра больш істотныя даследаванні тэмы мне невядома — ва ўсякім разе, не ўдалося выявіць ні друкаваных, ні наяўных у электронных сродках інфармацыі [5].

Дазваляе зрабіць выснову “нераспрацаванасці” тэмы і прагляд шэрага беларускіх даведнікаў. Яны пацвярджаюць уражанне, што гэтая галіна гістарычнага краіназнаўства і міжкультурнага сутыкнення аказваецца па-за полем зроку даследчыкаў. Пад загалоўкам “Падарожжа (у літаратуры)” (аўтар В. І. Атрашкевіч) у пяцітомнай “Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі” (Мн., 1984–1987) прыведзены запіскі адных толькі падарожнікаў паходжаннем з Беларусі, ды і яны — у адвольным падборы. У аднатомным энцыклапедычным даведніку “Беларусь” (Мн., 1995) загаловак “Падарожжа”, “Вандраванне” ці падобнае адсутнічае наогул, як і ў незавершанай шасцітомнай “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (Мн., 1993), якая ўпамінае ўсяго толькі пра часопіс “Падарожнік”, што выходзіць у Мінску з 1996 г. і зрэдку ўключае артыкулы на тэму гісторыі падарожніцтва ў Беларусі. Беспаспяховым засталося і кіданне позіркам

ў зборнікі серыі “Беларусіка = Albaruthenica” і “Наш радавод” ды іншыя гістарычна-краіназнаўчыя выданні, а таксама ў вучэбныя дапаможнікі па прадмету “беларусазнаўства”.

**Позірк звонку**

Нягледзячы на акалічнасныя ўмовы свайго ўзнікнення і індывідуальна-суб’ектыўнае ўспрыманне аўтарамі рэчаіснасці, запісы падарожнікаў, безумоўна, дазваляюць рабіць высновы аб рэальным, “аб’ектыўным” стане наведанай краіны. Падобна аўтабіяграфічным сведчанням аб ёй яны могуць служыць крыніцамі для высвятлення яе гісторыі. Хаця даследаванне падарожніцтва і падарожнай літаратуры расцэньваецца ўжо не як выключна дапаможны напрамак гістарычных, філалагічных або геаграфічных навук, а вызначаюцца ўласныя метады і мэты [6], але нас падарожныя апісанні Беларусі цікавяць перш за ўсё сваёй пазнавальнай вартасцю ў дачыненні да з’яваў беларускага жыцця ў мінулым. Тэксталагічныя, дыскурсійныя, гендэрныя ды іншыя важныя для новай дысцыпліны параметры (гісторыя менталітэту і светаўспрымання) адыходзяць на другі план, уступаюць краіназнаўчаму разгляду.

Перш чым брацца за разгляд, неабходна адшукаць паасобныя сведчанні, сабраць іх і зафіксаваць паводле выпрацаванай сістэматыкі. Толькі вырашыўшы пытанне пра матэрыяльны адбор і ягонае апісанне (бібліяграфія ці база дадзеных), можна правесці мэтанакіраваныя доследы і вывучыць дакументы па іншых крытэрыях, чым першасна краіназнаўчыя.

Надзвычай зменная і бурная гісторыя Беларусі знайшла сваё адлюстраванне ў параўнальна сціплай колькасці дайшоўшых да нас аўтабіяграфічных сведчанняў. Падвесці ім рысу, аднак, задача складаная, бо з-за адсутнасці бібліяграфічнага даведніка і тут няма на што абапірацца [7]. Па праўдзе, шматтомныя расійскія мемуарныя бібліяграфіі [8] і польскі іх адпаведнік [9] змяшчаюць назвы, якія датычацца і Беларусі. Усё ж лік зафіксаваных у іх аўтабіяграфічных сведчанняў (дзённікаў, успамінаў, перапісак, запісаў, падарожных нататак), што адносяцца да дарэвалюцыйнай Беларусі, наўрад ці перавышае паўтысячы назваў. Вось адной прычынай болей, каб увесці ў навуковы ўжытак і сведчанні замежных сучаснікаў, што маглі б пацвердзіць, дапоўніць ці выправіць выказванні, вядомыя нам з краёвых апісанняў.

Прымаючы пад увагу, што падарожныя запісы друкаваліся часта не асобным выданнем, а ў выглядзе газетных і часопісных артыкулаў ці ў мемуарах, дзённіках і эпісталярнай спадчыне, то матэрыяльную базу належала б значна пашырыць. Да прыкладу, можна прыгадаць мемуары княгіні Марыі Радзівіл, француажанкі, жонкі жыўшага ў Берліне князя Антонія, ардыната на Алыцы, Нясвіжы і Міры. Яны змяшчаюць падрабязнае апісанне падарожжа, зробленага княжацкім сямействам у 1865 г. у Нясвіж [10].

“Позірк звонку”, позірк небеларусаў на Беларусь мае значную цікавасць і для тых галін беларускіх гуманітарных навук, што вывучаюць гісторыю этнічнай і

нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Для большасці заходніх падарожнікаў Беларусь, на самой справе, з'яўлялася толькі "транзітнай зонай" на шляху ў Маскву, Пецярбург, Рыгу ды ў нетры Расійскай імперыі. Тым не менш, наколькі яны ўспрымалі яе як нешта асобае і асобнае — ці, прынамсі, як "ужоне (польскае)", а "яшчэ-не (расійскае)" у геаграфічным, антрапалагічным, этнаграфічным, рэлігійна-канфесійным ды іншых дачыненнях? Ці ўдаецца прасачыць і вызначыць храналогію "адасобленага ўспрымання" Беларусі? Калі так, ці засноўваецца яна на адзінкавых і розных ці на сукупных і аднолькавых уражаннях і ацэнках? На мой погляд, дастаткова ўжо адных гэткіх разважанняў, каб пераканацца ў неабходнасці забяспечыць крыніцам тыпу "позірк звонку" надзейнае месца ў беларусазнаўстве.

**Краіна без імя**

Мае заўвагі маглі б пакінуць уражанне, нібы тэма падарожных запісаў не вывучалася зусім, засталася белай плямай. Запаўняць прабел, аднак, спрабавалі артыкулы і працы аб асобных падарожніках і іх запісах [11], а пра выдадзеную В. Грыцкевічам і А. Мальдзісам кніжку "Шляхі вялі праз Беларусь" якраз ішла гаворка. Пры ўсіх бясспрэчных яе заслугах яна мае і недахопы. Гэта не навуковая распрацоўка тэмы, а "нарыс для старэйшага школьнага ўзросту", зроблены ў значнай меры не на падставе арыгінальнай версіі тэкстаў, а па перакладах у расійскіх зборах помнікаў і анталогій. Адсутнасць у кнізе не толькі паказальніка, але і вонкавай структуры (раздзелаў) пры аб'ёме больш за дзвесце старонак, на жаль, адмоўна адбіваецца на яе карыснасці.

Больш нагляднае ўяўленне пра падарожную літаратуру складваецца на падставе падраздзелаў "Путешествия" пяцітомнай бібліяграфіі замежнага друку пра Беларусь М. В. Васілеўскай [12]. У разлік тут прымаюцца ўсе друкі, акрамя беларускіх і расійскіх, — значыць, у пераважнай колькасці на польскай мове. Агулам у ёй сабрана 6 845 назваў, у тым ліку і матэрыялы, выдадзеныя не асобна, а ў перыёдыцы і зборніках. Бібліяграфічнае апісанне, аднак, шмат у якіх выпадках грунтуецца не на прынцыпе de visu (на праверцы паасобнікаў саміх друкаў), а на праглядзе пералічаных у прадмове бібліяграфій і бібліятэчных картатэк.

Праверка пяці тамоў выявіла ўсяго толькі 36 назваў "заходніх" падарожных запісаў, значыць, сведчанняў аб Беларусі, напісаных аўтарамі не польскага і не расійскага паходжання. Улічваючы агульную колькасць назваў бібліяграфіі, нельга не здзівіцца такім мізэрным вынікам. Аднак сярод выкарыстанай укладальніцай даведачнай літаратуры, па невядомых мне прычынах, адсутнічае выдадзены ў 1873 г. т. зв. каталог "Russica" Імператарскай публічнай бібліятэкі — аўтарытэтны звод іншамоўнага пісьменства пра Расійскую імперыю [13]. Ён ахоплівае 28 491 назву па алфавітнаму парадку, размешчаную ў дадатку і паводле прадметных ды геаграфічных рубрык. Рубрыцы "Voyages" (Падарожжы) адведзена 1 240 назваў, з якіх 31, зноў пераважна польскага паходжання, вы-

падае на “Pologne-Lithuanie”, узятую на ўлік, вядома, толькі ад эпохі падзелаў Рэчы Паспалітай. Беларускія губерні Віцебская, Магілёўская, Мінская, Гродзенская і Віленская ў паказальніку не ўказаны, — нават пад найменнем “Заходні край” ці “Паўночна-Заходні край” яны туды не трапілі.

Гэтым жа мы закранаем бадай ці не галоўную пошукавую праблему, а менавіта “безыменнасць”, або “анамастычную мімікрыю” Беларусі, заслоненай імёнамі больш магутных суседзяў. Не будзем спыняцца на праблематыцы найзвы “Літва”. Варта нагадаць толькі, што большасць запісаў пра “Літву” мае на ўвазе віленскую, гродзенскую і мінскую Беларусь, у той час калі нашмат радзей трапляючага імя “Беларусь” нельга атаясаміць з сучасным ягоным значэннем. Да XVIII ст. “Беларуссю”, вядома, называлася паўночная і паўночна-заходняя тэрыторыя еўрапейскай Расіі [14]. Іншымі словамі: у адрозненне ад запісаў, напрыклад, аб Італіі, Егіпце і Кітаі, не выклікаючых аніякіх азначаных праблем у дачыненні да геаграфіі, запісы пра Беларусь даводзіцца выяўляць з-пад прыкрыцця самых розных найменняў.

Выходзіць, што адной Беларусі не часта выпадала быць намечанай краінай падарожжа. Бальшыня падарожнікаў імкнуліся ў Расію, дык ім, узбуджаным прадчуваннем сустрэчы з Белакаменнай ці Паўночнай Пальмірай, Беларусь паказвалася ні чым іншым, як прамежкам, як парогам. Вось чаму даводзіцца разабраць намнога большую колькасць сведчанняў, чым гэта чакаецца ад укладальнікаў “краёвых” бібліяграфій падарожных запісаў. Тэма заходніх падарожжаў у царскую і савецкую Расію, на шчасце, грунтоўна распрацавана як у аналітычным сэнсе, так і адносна выдання крыніц [15]. Значна меншая ўвага, прынамсі, з боку заходніх даследчыкаў, — звернута на тэму падарожжаў у Польшчу, ці Рэч Паспалітую [16]. На падставе наяўных выданняў удаецца спрасціць і прыспешыць пошукі запісаў пра Беларусь. Дзякуючы гэтым публікацыям шмат у якіх выпадках удаецца абысціся без часастратных пошукаў тэкстаў ды лішняй праверкі.

### Спроба падыходу

Штуршком да распрацоўкі тэмы быў для мяне ўдзел у навуковай праграме па даследаванню гісторыі швейцарска-славянскіх узаемасувязей, што вялася ў 1988–1994 гг. пры Славянскім інстытуце і Інстытуце гісторыі Усходняй Еўропы Цюрыхскага універсітэта і ў рамках якой выйшаў зборнік пра швейцарска-славянскія падарожныя кантакты, дапоўнены аб’ёмістай каменціраванай бібліяграфіяй [17]. Са збіраннем матэрыялаў прыйшлося мне пачакаць, пакуль не закончылася даследчая праграма. Але і пасля не пашанцавала займацца гэтым сістэматычна і паслядоўна.

Зробленае мной дагэтуль не выходзіць за рамкі падрыхтоўкі — значыць, збірання бібліяграфічных дадзеных. Хаця пры малалікай яшчэ колькасці зарэгістраваных мною дакументаў — усяго іх каля ста — не мушу абмяжоўвацца крытэрыямі адбору, мне падаецца мэтазгодным прыкласці мерку ў дачыненні

да 1) фармальнага, 2) часавага, 3) геаграфічнага, 4) тэматычнага і 5) аўтарскага бакоў матэрыялаў. У адпаведнасці з гэтым прадугледжваецца ўключэнне дакументаў, якія:

1) выйшлі з друку (асобна ці не асобна), прычым Беларусі як цэлай або асобным яе мясцінам у апісанні павінен быць адведзены раздзел ці хоць бы абзац, які перадае ўражанне або ацэнку падарожніка;

2) ахопліваюць перыяд ад самых ранніх сведчанняў да пачатку Другой сусветнай вайны;

3) апісваюць ці то шлях, ці то геаграфічны пункт на прасторы сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пры неабходнасці можна ўключыць і этнічна змяшаныя суседнія абшары — Віленшчыну, Беласточчыну, Смаленшчыну, Паўднёвае Палессе і інш.;



*Удзельніца Кангрэса Моніка Банкоўскі (Швейцарыя, стаіць злева) у час кулуарных дэбатаў. Фота БелТА*

4) сведчаць аб нейкім перамяшчэнні — па любой прычыне і з любой мэтай. Пакуль што ўключаны і падарожжы нявольныя, вымушаныя — напрыклад, вайскоўцаў напалеонаўскай арміі і германскай X арміі (Першая сусветная вайна), паколькі іх запісы або ўспаміны змяшчаюць і апісанні беларускіх краявідаў. Варта было б запыніцца на пытанні, ці не ўключыць таксама фіктыўныя або сфальсіфікаваныя апісанні. Вядома, што фіктыўная падарожная літаратура ў XVIII–XIX стст. карысталася вялікай папулярнасцю і ў значнай ступені ўплывала на ўзнікненне і замацоўванне нацыянальных і этнічных стэрэатыпаў;

5) напісаны аўтарамі нерасійцамі і непалякамі, бо для адных і другіх Беларусь з'яўлялася не чужынай, а толькі больш-менш экзатычнай прасторай уласнай радзімы. З практычна-пошукавых і моўных прычын трэба адмовіцца ад уключэння сведчанняў, напісаных аўтарамі-падарожнікамі не еўрапейскага і не амерыканскага паходжання. У цэнтры ўвагі знаходзяцца апісанні на мовах нямецкай, французскай, англійскай, галандскай, італьянскай, скандынаўскіх.

Не лішнім будзе спытацца, наколькі ды ў чым менавіта вобраз Беларусі індывідуальных апісанняў супадае ці разыходзіцца з больш абагульненым, "аб'ектываваным" у сучасных ім навуковых і папулярна-навуковых працах па геаграфіі і краязнаўству Расіі і Польшчы. Для параўнання ў адбор уключана і частка гэтых матэрыялаў, як і, дарэчы, турыстычныя і іншыя даведнікі. Апош-

нія з іх, пераважна лаканічна-ненатхнёнай ацэнкай дарогі Варшава – Масква ці Варшава – Пецярбург [18], ці не паўплывалі адмоўна на ўспрыманне Беларусі "нашымі" падарожнікамі? Як пры апрацоўцы падарожных запісаў, так і пры падборы геаграфічных даведнікаў узнікае праблема вылучэння Беларусі, вылучэння яе з-пад чужога покрыва.

**На раздарожжы**

Як бачна, дагэтуль не стае ні агляду, ні бібліяграфій замежных (заходніх) падарожных запісаў пра Беларусь. У найлепшым выпадку найбольш вядомыя імёны ўключаюцца ў гістарычна-краіназнаўчыя бібліяграфіі агульнага тыпу (Васілеўская) або цытуюцца ва ўрыўках у сумарных нарысах (Грыцкевіч – Мальдзіс). Пажаданым было б абапірацца як на бібліяграфію запісаў і іх аўтараў, так і на анталогію саміх тэкстаў. Метадычным узорам для першай магла б служыць хай і не новая, але вельмі наглядная бібліяграфія англамоўных запісаў пра Расію Нергуда [19]. Храналагічнае ўпарадкаванне назваў (па датаванні падарожжа ці звестак аб ім) і суправаджэнне іх каментарыямі пра аўтара ды шлях і прычыну або мэту падарожжа задаволілі б патрэбу функцыянальнай прэзентацыі матэрыялу, які пры дапамозе паказальнікаў мог бы быць выкарыстаны і для навуковай распрацоўкі. Па яўных прычынах такое выданне насамперш павінна выйсці ў Беларусі і на беларускай мове, бо мае на мэце азнаёміць менавіта беларускіх чытачоў і даследчыкаў з дасюль мала ім вядомымі ці зусім невядомымі крыніцамі па гісторыі іх краіны.

У нашу эпоху электронных базаў дадзеных, электроннага публікавання і стварэння адзінай інфармацыйнай прасторы выкарыстоўваюцца зусім іншыя магчымасці знаходжання і апрацоўкі матэрыялаў. Таму маё пытанне: ці існуе ў Беларусі навуковая ўстанова, якая планамерна праводзіць працу па электроннай дакументацыі беларусазнаўчых і гістарычных крыніц, у тым ліку і замежных? Іншы раз чутно было пра каардынацыйныя планы Скарынаўскага цэнтра, прычым не ясна, ці збіранне інфармацыі і забеспячэнне доступу да іх ажыццяўляецца і электронным шляхам. Стварэнне цэнтральнай базы дадзеных намячаецца ў рамках дзейнасці адноўленай пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы (БелНДІДАС) Археаграфічнай камісіі (БАК), праграма якой прадугледжвае "выяўленне, вывучэнне і выданне (перавыданне) усіх каштоўных гістарычных крыніц пра Беларусь" [20]. Сярод асноўных напрамкаў распрацовак задуманы і такі: "Беларусь XV–XVIII стст. вачыма гісторыкаў і падарожнікаў". А чаму не пашырыць часавы ахоп на падарожныя запісы XIX і ранняга XX ст., якія пры не так ужо шматлікай наяўнасці ці захаванасці мемуарных сведчанняў пра ранейшую Беларусь аказаліся б, на мой погляд, аб'ектамі не менш годнымі збірання, выдання і апісання?

З праектам я цяпер знаходжуся на раздарожжы. Як быць далей? Па якой дарозе ісці? Дзе тая "фінішная прамая", якая дапаможа пазбегнуць небяспекі тупікоў і бездарожжа ды знайсці выйсце з гушчы матэрыялаў? Ісці аднаму —

гэта неперспектыўна. Я гатова далучыць сабраныя мной бібліяграфічныя звесткі да стандартнага электроннага фармату для абмену і апрацоўкі дадзеных. Што тычыцца практычнага, тэхнічнага і метадычнага бакоў кааперацыі, дык, пэўна, можна прыйсці да згоды. Самае галоўнае: ці зможа беларускі бок узняць тэму “Беларусь вачыма замежных падарожнікаў” поўнасцю і з адпаведнай навуковай грунтоўнасцю?

---

[1] Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс. Мн., 1980. С. 9.

[2] Каментаваная бібліяграфія Т. Р. Мацвеевай, якая ахоплівае толькі 16 назваў, не можа задаволіць гэтай патрэбы. Гл.: Мацвеева Т. Р. Беларусь у мемуарнай літаратуры (вачамі падарожнікаў) // Новыя кнігі Беларусі. 1992. № 9. С. 29–32.

[3] Звестка ад сябра Рэдакцыйнай рады “Беларускага кнігазбору” Я. Янушкевіча (3 жніўня 1999 г.).

[4] Алесь Белы: Belarus in Western Sources and Illustrations; Мікола Пачкаеў: Старасьвецкі праект.

[5] Рэгулярна праглядаліся мной беларускія часопісы “Новыя кнігі Беларусі — па старонках беларускага друку” (штомесячны бібліяграфічны бюлетэнь) і “Кантакты і дыялогі: інфармацыйна-аналітычны і культуралагічны бюлетэнь”, а таксама розныя “лінкі“ па беларускай тэматыцы ў Інтэрнеце.

[6] Гл. напр.: Maurer M. (Hg.). Neue Impulse der Reiseforschung. Berlin, 1999. (Aufklärung und Europa).

[7] Адзіная бібліяграфія беларускай мемуарнай літаратуры адносіцца да БССРаўскага перыяду: “Савецкая Беларусь ва ўспамінах сучаснікаў: Анатаваны паказальнік мемуарнай літаратуры 1917–1972 гг.”. Мн., 1973. Змястоўны пералік, уключаючы і дарэвалюцыйныя, і літаратурныя мемуары, дае артыкул “Мемуары” (аўт. А. І. Мальдзіс і Г. Дз. Кнацько) у “Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі”. Мн., 1986. Т. 3. С. 507–509.

[8] Минцлов С. Р. Обзор записок, дневников, воспоминаний, писем и путешествий, относящихся к истории России и напечатанных на русском языке. Новгород, 1911 / Сост. (Рэпрынтнае выд.: Leipzig, 1976); История дореволюционной России в дневниках и воспоминаниях: Аннотированный указатель книг и публикаций в журналах / Под ред. П. А. Зайончковского. М., 1976–1988. Т. 1–5; Советское общество в воспоминаниях и дневниках: Аннотированный библиографический указатель книг, публикаций в сборниках и журналах: В 5 т. М., 1987; Литературные мемуары XX века: Аннотированный указатель книг, публикаций в сборниках и журналах на русском языке (1985–1989 гг.). М., 1995. Т. 1–5.

[9] Maliszewski E. Bibljografja pamiętników polskich i Polski dotyczących (druki i rękopisy). Warszawa, 1928. (Przedruk: Warszawa, 1981).

[10] Une Française à la cour de Prussie. Souvenirs de la Princesse Antoine Radziwill (née Castellane) 1840–1873; Publiés par les comtesses Elisabeth et Hélène Potocka. Paris, 1931. (аб падарожжы — на с. 73–99).

[11] З найноўшых: Перагрынацыі, альбо Кароткае і сціслае апісанне вандраванняў Генрыха Вольфа з Цюрыху / Пер. з пол. А. Крукоўскага, падрыхт. публік. А. Белага) // Спадчына. Мн., 1998. № 3. С. 179–195; Сагановіч Г. Чужаземцы пра Беларусь // Наша ніва. 1998. 9 лют.

[12] Василевская М. В. Белоруссия в печати XVI, XIX – нач. XX ст.: Библиографический указатель на иностранных языках / Сост. Мн., 1982–1985. Т. 1–5.

[13] Catalogue de la Section des Russica, des écrits sur la Russie en langues étrangères: Bibliothèque Impériale Publique de St-Pétersbourg, 1873. Vol. 1–2 (Reprint: Amsterdam, 1964).

[14] Гл.: Сагановіч Г. М. Імя тваё Белая Русь. Мн., 1991.

[15] Сярод шматлікіх публікацый апошніх гадоў варта прыгадаць: Helm H. Robel G. (Hg.). Alieni de Russia: Rußlandberichte von den ältesten Zeiten bis zum Jahre 1855. München, 1981. Bd. 1; Poljakova R. Mit aufrichtiger Feder meist gegenwärtig aufgezeichnet: Rußlandberichte deutscher Reisender vom 16. bis zum 19. Jahrhundert. Frankfurt am Main, 1999. (Deutsch-russische Literaturbeziehungen, 10); Metzger W. Bibliographie deutschsprachiger Sowjetunion-Reiseberichte, Reportagen und Bildbände 1917–1990. Wiesbaden, 1991; Poe M. (ed.). Foreign descriptions of Muscovy. An analytic bibliography of primary and secondary sources. Columbus; Ohio, 1995; Claude de Grève (éd.). Le voyage en Russie. Anthologie des voyageurs français aux XVIIIe et XIXe siècles. Paris, 1990; Россия первой половины XIX века глазами иностранцев / Вступ. статья Ю. Лимонова, примеч. В. Данченко. Ленинград, 1991; Артемова Е. Ю. Культура России глазами посетивших ее французов. (Последняя треть XVIII в.). М., 2000.

[16] Chynczewska-Hennel T. Rzeczpospolita XVII wieku w oczach cudzoziemców. Wrocław [etc.], 1993; Polska Stanisławowska w oczach cudzoziemców / Oprac. W. Zawadzki. Warszawa, 1963. S. 956, 963. (Biblioteka Pamiętników Polskich i Obcych); Szyndler A. Polen in den Augen deutscher Reisender im 17. Jahrhundert. Diss. Univ. Passau, 1996; Dunin-Wąsowicz K. Podróże Francuzów do Polski w XIX i XX wieku (do roku 1914) // Przegląd Humanistyczny. Warszawa, 1990. Nr 1. S. 73–98; Kozielek G. Deutsche Reiseberichte über das Polen Stanislaus August Poniatowskis // Europäisches Reisen im Zeitalter der Aufklärung. Hrsg. von H. W. Jäger. Heidelberg, 1992. S. 196–222. (Neue Bremer Beiträge, 7).

[17] Bankowski M. [et al.] (Hg.). Fakten und Fabeln: Schweizerisch-slavische Reisebegegnung vom 18. bis zum 20. Jahrhundert. Basel, 1991. Бібліяграфія ахоплівае час да 1800 г., уключае 564 анатаваных назваў.

[18] Гл. напр: Murray's Handbook for travelers in Russia, Poland and Finland. 5th ed. London, 1893: "Nothing is lost by passing any part of the line between Vilna and Moscow in the night, as there is little to be seen on it except the historical city of Smolensk […]" (P. 110).

[19] Nerhood H. W. (comp.). To Russia and return. An annotated bibliography of travelers' English-language accounts of Russia from the Ninth century to the present. [Columbus; Ohio], 1968.

[20] Янушкевіч Я. Нацыянальная праграма выдання гістарычных крыніц: Аднаўленне Беларускай археаграфічнай камісіі (БАК). Праект. Мн., 1999.



## З СУСВЕТНАГА ПАТОКУ НАВІН

~ ~

У англійскім горадзе Бат прайшла навуковая канферэнцыя "Беларусь — забытае сэрца Еўропы?". Яе ўдзельнікамі былі каля 40 вучоных з Вялікабрытаніі, Беларусі, ЗША і Чэхіі. Ініцыятыва правядзення канферэнцыі належыць выкладчыцы сацыялогіі мясцовага універсітэта *Вользе Карасцялёвай*, мінчанцы родам. Плануецца выданне матэрыялаў.

~ ~

53 дэлегаты ўдзельнічалі ў чацвёртым з'ездзе Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, створанага ў 1996 г. Аддзяленні яго дзейнічаюць у Баландаеўскім і Балаганскім раёнах. Старшынёй таварыства выбраны настаўнік гісторыі *Алег Рудакоў*, намеснікамі — старшыня савета дырэктараў БайкалОнэксімБанка *Уладзімір Якавенка* і ўрач ваеннага госпіталя *Аліна Грыбаноўская*.




## ВЕЧАРЫНА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ВЫДАТНАМУ СПЕВАКУ







14 чэрвеня ў Беларускім таварыстве дружбы адбылася вечарына з нагоды сотай гадавіны з дня нараджэння беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. Арганізавалі яе Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, дзе захоўваюцца многія рукапісы і рэчы спевака, Таварыства “Беларусь – Чэхія”, “Беларуская капэла”, Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў.

Услед за выступоўцамі прыгадаем асноўныя моманты жыцця і дзейнасці М. Забэйды-Суміцкага. Нарадзіўся ён у вёсцы Шэйпічы цяперашняга Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. Вакальную падрыхтоўку атрымаў у Харбіне (Кітай). Затым выступаў у Харбінскай оперы, Міланскай кансерваторыі, Пазнанскай оперы. Пасля вайны жыў і канцэртаваў у Празе, дзе памёр і пахаваны на Альшанах. Выканаў многія вядучыя партыі ў чэшскіх, рускіх, заходнееўрапейскіх операх. Асабліва праславіўся пранікнёным спяваннем беларускіх народных песень. Сяброваў з Максімам Танкам, Рыгорам Шырмам, чэшскімі беларусістамі.

Змяшчаем першую старонку праграмы канцэрта, які адбыўся 16 мая 1937 г. у Віленскім універсітэце, і фатаграфію пражскага перыяду (1970).

***Ірына Тамільчык**, супрацоўніца Цэнтра імя Ф. Скарыны*



*Рэцэнзіі і водгукі перанесены ў наступны нумар*

## НАДРУКАВАНА ПРА КАНТАКТЫ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

У падрыхтоўцы бібліяграфіі ўдзельнічалі:
***Моніка Банкоўскі*** *(Швейцарыя),* ***Алеся Белавусава, Валянціна Грышкевіч, Раіса Жук-Грышкевіч*** *(Канада),* ***Мікалай Ількевіч*** *(Расія),* ***Святлана Кошур, Цімафей Ліякумовіч*** *(ЗША),* ***Адам Мальдзіс, Таццяна Махнач, Таццяна Пятровіч, Алесь Рудакоў*** *(Расія),* ***Міхал Швэдзюк*** *(Вялікабрытанія),* ***Сакрат Яновіч*** *(Польшча).*

Перавага пры складанні бібліяграфіі аддаецца кніжным і часопісным публікацыям, якія паступаюць у ГА "МАБ" і Цэнтр імя Ф. Скарыны. З публікацыямі пра ўзаемасувязі, змешчанымі ў газетах, можна пазнаёміцца ў Банку інфармацыі таго ж Цэнтра.

### АЎСТРАЛІЯ

**Кавалеўскі Віктар.** Беларусы ў Адэлаідзе. Адэлаіда [Аўстралія, 2000].

### АЎСТРЫЯ

**Scharff Roland.** Weißrußland: Rückwärtsgewandt in die Zukunft? // Österreichische Osthefte. 1999. H. 3–4. S. 365–381.

### БАЛГАРЫЯ

**Куль-Сельверстова С. Е.** Российский либерализм в судьбах белорусского народа (конец XVIII – середина XIX вв.) // Bulg. hist. rev. T. XXV. 1997. № 1. C. 126–134.

### БЕЛАРУСЬ • Агульныя пытанні

**Абабурка М. В.** Асаблівасці перакладу тэкстаў на беларускаю мову: Дапам. для студэнтаў філал. факультэтаў. Магілёў, 1999.

**Белокурский В. М.** Античная философия: Учеб. пособие. Минск, 1999.

**Берасцень С.** Карабель пад назвай "Мінск–2000": 5 красавіка ў сталіцы ўрачыста адкрыўся Міжнародны конкурс піяністаў // Літ. і мастацтва. 2000. 7 крас.

**Валочка Г. М.** Навучанне перакладу ў школе: Дапам. для настаўнікаў. Мн., 1999.

**Вежнавец Яўген, Скуратовіч Канстанцін.** Інвестыцыі ў эканоміку: сусветныя стандарты і беларускія рэаліі / Пер. з рус. // Бел. перспектыва. 2000. № 2. С. 1–3.

**Выкладчыкі** [у т. л. беларусісты] Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы: Біябібліяграфічны даведнік. Гродна, 1999.

**Вярцінская Т. С.** Развіццё прыгранічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 55–60.

**Голубеў Валянцін.** Беларусь і міжнародная супольнасць — 1999 год: [Беларусь – Расія; Беларусь – Савет Еўропы] // Бел. перспектыва. 1999. № 9. Снеж. С. 2–3.

**Голубеў Валянцін.** Беларусь і міжнародная супольнасць — 1999 год: [Беларусь – ЕС; Беларусь – АБСЕ] // Бел. перспектыва. 2000. № 1. С. 2–3.

**Губіна Вольга.** З гісторыі вывучэньня беларуска-балтыцкіх сувязяў // Крыўя. 1998. № 1. С. 149–162.

**Добриневская А. И., Позняк А. В.** Через социально-педагогическое творчество к культуре мира // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 52–61.

**Жук А. И.** На пути к культуре мира // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 3–7.

**Іваноў Уладзіслаў.** Беларускі нейтралітэт: міф або выратаванне нацыі // Грамадзян. альтэрнатыва. 1999. № 11. С. 18–23.

**Кавко Алексей.** "Слезами Родины пускай язвит мой стих…": Адам Мицкевич и Александр Пушкин: "литовский" аспект творческой полемики // Нёман. 2000. № 2. С. 239–247.

**Касович А. В.** Интеграция идеи культуры мира в учебно-воспитательный процесс школы // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 62–68.

**Киселева С. А., Станишевская Л. П.** Западноевропейское искусство XX века: Учеб.- метод. пособие. Минск, 1999.

**Кларин М. В.** Инновации в мировой педагогике: обучение на основе исследования, игр, дискуссии (Анализ зарубежного опыта) // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 3. С. 70–74.

**Клімчук Фёдар.** Да вытокаў фарміраваньня ўсходнеславянскіх народаў // Крыўя. 1998. № 1. С. 100–148.

**Конверсия** научных исследований в Беларуси в рамках деятельности МНТЦ: Материалы Международного семинара. Минск, май 17–22, 1999 г. Минск, 1999.

**Кузнечевский Владимир, Медведев Аркадий.** Единение — во благо себе и другим // Всемир. лит. 2000. № 4. С. 4–7.

**Панізнік Сяргей.** Літэкспрэс Еўропа-2000 // Літ. і мастацтва. 2000. 28 крас.

**Прохорова Ж. Е.** Интерес как условие обучения иностранному языку // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 4. С. 59–60.

**Савіна І. В.** Уніфікацыя норм міжнароднага гандлю // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 26–30.

**Таболіч Алена, Вікторка Ларыса.** Імёны і прозвішчы англамоўных мастакоў: Вялікабрытанія, ЗША // Род. слова. 2000. № 4. С. 55–57.

**Тимофеева Лидия.** Три “кита” в основании культуры мира // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 35–43.

**Тимошенко И. В.** Идеи культуры мира и социальная педагогика // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 44–51.

**Шанина Янина.** INTAS в помощь белорусской науке // Бібліятэчны свет. 2000. № 1. С. 5.

**Шаўцоў Юрый.** Міжнароднае становішча Беларусі ў 1999 годзе: Новыя фактары і тэндэнцыі // Грамадзян. альтэрнатыва. 1999. № 12. С. 32–35.

**Budko Aleksandr.** Minsk-2000 International Piano Contest begins // Belarus Today. 2000. Apr. 11–17.

**Gołombowska Oksana**. “Chcemy zapoznać z naszą bogatą kulturą”: III Ogólnokrajowy Festiwal Kultur Narodowościowych / Rozm. Natalia Malinowska // Głos znad Niemna. 2000. 28 kwiet.

**Iwanowski Witold**. Okruchy utraconego dziedzictwa: Mińska wystawa “Architektoniczny krajobraz w sztuce zachodnioeuropejskiej XVII–XVIII wieków” // Głos znad Niemna. 2000. 21 kwiet.

### • Беларусь – Аўстрыя

**Бераст Міхась.** Сэрца Альпаў: [Пра сацыяльную дапамогу ў Аўстрыі] // Кн. мир. 2000. 11 марта.

**Михеев Владимир.** Белый город с коричневой отметиной: Австрийцы ищут способ похоронить прошлое // Здравый смысл. 2000. 19–26 апр.

### • Беларусь – Балгарыя

**Лесковский С., Одинченко В. А.** Кирилл и Мефодий в католической традиции // IV Международные Кирилло-Мефодиевские чтения, посвященные Дням славянской письменности и культуры: Материалы чтений (Минск, 24–26 мая 1998 г.): В 2 ч. Минск, 1999. Ч. 1. С. 104–107.

### • Беларусь – Ватыкан

**Hrynaszkiewicz Jarosław**. Papieska pielgrzymka po Ziemi Świętej // Słowo ojczyste [Гродна]. 2000. Nr. 4. S. 32.

### • Беларусь – Венгрыя

**Еўдачэнка А.** “Венгрыя — перспектыўны, прадказальны і надзейны партнёр. Перад ад’ездам у Будапешт пасол Беларусі ў Венгрыі адказаў на пытанні карэспандэнта “Звязды”: [Інт.] / Зап. Леаніда Лахманенкі // Звязда. 2000. 1 сак.

### • Беларусь – Вялікабрытанія

**Вайсёнак Юрась.** “Чорная страла” [англ. пісьменніка Р. Л. Стывенсана] // Літ. і мастацтва. 2000. 7 крас.

**Запрудскі Ігар.** Прыгоды “Нячысціка” [А. Рыпінскага], або Колькі слоў пра беларуска-англійскія сувязі ў сярэдзіне XIX стагоддзя // Голас Радзімы. 2000. 12 крас.

**Кауч М.** Творческая каллиграфия: Искусство красивого письма / Пер. с англ. А. А. Вайзе. Минск, 1998.

**Козлова А. М.** Infinite Forms to Master Business English: Учеб. пособие по англ. языку. Минск, 1999.

**Корн И.** Шедевры мирового искусства / Пер. с англ. Г. И. Левитана. Минск, 1998.

**Лесли Р.** Поп-арт: Новое поколение стиля / Пер. с англ. О. Г. Белошеева. Минск, 1998.

**Модальные** глаголы в английском языке: Учеб. пособие [Склад. С. В. Вікулаў]. Минск, 1999.

**Надсан Аляксандр** [Лондан]. “Быць як Бог”: Развважаньне на Сьвята Ўваскрасеньня Гасподняга // Наша ніва. 2000. 24 крас.

**Прокофьева Е. В.** Структурно-семантические характеристики библейских пословиц в английском языке. Минск, 1999.

**Скобла Міхась.** Ад Зальвянкі да Тэмзы: Слова пра Алену Таболіч [перакладчыцу англ. паэзіі] // Род. слова. 2000. № 4. С. 54.

**Эдвардс Оўэн.** Цела як матэрыял / Пер. з англ. Уладзіміра Казлова // Мастацтва. 2000. № 4. С. 22–24.

**Belarusian Chronicle** [Лондан]: [Передрук перакладаў бел. вершаў, зробленых В. Рыч] // Голас Радзімы. 2000. 26 крас.

## • Беларусь – габрэі

**Гутман Якаў.** Антысэмітызм пад крыжам РПЦ: [Пра кнігу "Война по законам подлости"] // Наша ніва. 2000. 10 мая.

**Іофе Эмануіл.** Яўрэі Магілёва ў XVI – пачатку XX стст. // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1999. С. 13–24.

**Иоффе Э., Мельцер Б.** Джойнт в Беларуси. Минск, 1999.

**Каган Д., Коген Д.** Як мы перажылі халакост з яўрэйскім партызанскім атрадам у Беларусі / Пер. з англ. Т. Вяршыцкай, прадм. М. Гілберта. Мн., 1999.

**Новокрещенная Елена.** Повелитель времени [Марк Шагал] // Першацвет. 2000. № 4. С. 44–49.

**Усава Надзея.** Мастак і ўлада: Якаў Кругер — беларускі Жэрар? // Род. слова. 2000. № 4. С. 78–84.

**Функ Ю. В.** Закрытая форма еврейской благотворительности: "Медицинская" и "присмотровая" еврейская благотворительность как основные формы ее проявления // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 155–156.

**Функ Ю. В.** "Гемелут хеседы" (ссудные кассы) и благотворительные организации типа "Combinig everything in itself" как виды закрытой формы еврейской благотворительности // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 156.

**Щукин Валерий.** Еврейский вопрос белорусские власти, похоже, не волнует: [Пра мемарыял "Яма" ў Мінску] // Нар. воля. 2000. 11 мая.

## • Беларусь – Германія

**Андреев В. И.** Развитие систем образования ФРГ и Республики Беларусь: Сравнит.- пед. анализ. Минск, 1999.

**Анішэўская Алена.** Рэабілітацыя Хведара Ільяшэвіча [бел. паэта, які загінуў у Германіі] // Ніва. 2000. 16 крас.

**Бах И. С.** Шесть сюит = Sechs Suiten: Для виолончели соло = Für violoncello sollo. Минск, 1999.

**Берасцень С.** Мінская маладосць Баха // Літ. і мастацтва. 2000. 28 крас.

**Галкин О. А.** Теоретические проблемы музыкальной психологии (на основе энергетической концепции Эрнста Курта). Минск, 2000.

**Германия** глазами журналистов: [Зборнік, склад. К. Баер]. Минск, 1999.

**Дарашкевіч Юлія.** Бацьку амерыканскай астранаўтыкі беларусу [які жыве ў Германіі] Барысу Кіту — 90 гадоў! // Пагоня. 2000. 13 крас.

**Дарашкевіч Юлія.** Ёсць кіты на Беларусі!: [Да 90-годдзя Барыса Кіта] // Пагоня. 2000. 20 крас.

**Іофе Эмануіл.** "Платон мне сябра, але ісціна даражэй": [Рэц. на: Каваленя А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. Мн., 1999] // Полымя. 2000. № 3. С. 315–319.

**Каваленя А. А.** Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі, 1941–1944: Вытокі. Структура. Дзейнасць. Мн., 1999.

**Келлер О. Б.** Реалии жизни и быта средневековой Германии по данным "Саксонского зерцала": Автореф. дисс. … канд. ист. наук. Минск, 1999.

**Савік Лідзія.** Не згубіўся ў чужамоўным свеце…: Да 90-годдзя Барыса Кіта // Літ. і мастацтва. 2000. 7 крас.

**Сяргеева Галіна.** Барыс Уладзіміравіч Кіт — 90 // Голас Радзімы. 2000. 19 крас.

**Тагиль И. П.** Немецкий язык: Грамматический справочник. Минск, 1999.

**Шульц Дитер** [Лейпцыг]. Единство и многообразие в школьном образовании // Адукацыя і выхаванне. 2000. № 4. С. 72–75.

**Młode** talenty z Brześcia w Westfalii // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 4. S. 5.

## • Беларусь – Грузія

**Ламсадзэ Лілія.** Вясёлыя гісторыі "Арэра": [Пра грузінскі музычны ансамбль] // Культура. 2000. 1–7 крас.

## • Беларусь – Данія

**Кабанава Тамара.** У якой глебе прарастаюць зярняты: [Пра адукацыю ў Даніі] // Настаўн. газ. 2000. 4 мая.

**Кірухіна Людміла.** Публічныя бібліятэкі і інфармацыйнае грамадства: [Пра Усееўрапейскую канферэнцыю, якая адбылася ў Капенгагене] // Бібліятэчны свет. 2000. № 1. С. 24–25.

**Рублеўская Людміла.** Тры шляхі дацкага Сакрата [Сёрэна К'еркегора] // Першацвет. 2000. № 4. С. 40–42.

## • Беларусь – Егіпет

**Осипович Олег.** Охота за древними рукописями [ў Егіпце] // Кн. мир. 2000. 4 мая.

## • Беларусь – ЗША

**Антонава-Мельяновіч Таццяна.** Формула жыцця: [Пра эмігрантку Веру Дзідзіну і яе сына з Гомельшчыны] // Звязда. 2000. 4 крас.

**Лахманенка Леанід.** Адметны лёс невядомага паэта з-пад Ляхавіч: У Беларускім доме дружбы адбылася вечарына з нагоды 85-годдзя паэта Анатоля Бярозкі // Звязда. 2000. 1 крас.

**Лось Дамінік.** Фонд Orsa-Romano [ЗША] падтрымаў настаўніка // Літ. і мастацтва. 2000. 14 крас.

**Маракоў Леанід.** Вандроўнік з крыжовай дарогі: [Пра бел. эмігранта ў ЗША Аўгена Калубовіча] // Літ. і мастацтва. 2000. 21 крас.

**Молочко Елена.** Как американский профессор [Д. Полак] искал в Пинске дом своего отца // Совет. Белоруссия. 2000. 29 апр.

**Ошерова Ольга.** Чему учат семья и школа в Америке: Размышления о наболевшем // Царкоўнае слова. 2000. № 4. С. 8–9.

**Самсонов П. В.** Как поступить в американский университет и как в нем успешно учиться: Краткое пособие для поступающих. Минск, 1999.

**Саўка Зьміцер.** Дранікі з колай: [З вандроўкі па Амерыцы] // Наша ніва. 2000. 24 крас.

**Томашевская Ольга.** Требуется дипломат … с опытом работы: [Пра будучага пасла ЗША ў РБ Майкла Козака] // Бел. деловая газ. 2000. 11 апр.

**Шкурко Тамара.** Паэт і медык — беларускі і амерыканскі: [Пра Анатоля Бярозку] // Кн. мир. 2000. 4 мая.

**Rich Meat.** Гісторыя Straight Edge [у ЗША] // Першацвет. 2000. № 4. С. 33–37.

## • Беларусь – Ізраіль

**Носов Сергей.** 6 фильмов, которые открыли израильский мир // Центральная газ. 2000. 14 апр.

[**Пелед-Флэкс Марцін**]. Господин Мартин Пелед-Флэкс: "Наши страны заинтересованы в постоянном и активном сотрудничестве: [Інт.] / Зап. Михаила Шиманского // Рэспубліка. 2000. 11 мая.

## • Беларусь – Індыя

**Кшемендра Вьясадаса.** Основы истинного добронравия: Избр. этич. и сатир. поэмы [Уводз., пер. з санскрыта і камент. М. І. Міхайлава]. Орша, 1999.

## • Беларусь – Ірландыя

**Дубянецкі Эдуард.** Пасланнік Ірландскага брацтва: [Лім О'Мара ў Цэнтры імя Ф. Скарыны] // Голас Радзімы. 2000. 12 крас.

**Міцкевіч Міхаіл.** Сябруюць дзве "зялёныя" краіны: [Пра зборнік "Беларусь – Ірландыя"] // Кн. мир. 2000. 20 апр.

## • Беларусь – Іспанія

**Па слядах** куміраў: Пра мастацкую акцыю "Іспанская партыя" ў Музеі сучаснага мастацтва] // Культура. 2000. 1–7 крас.

**Мядзведзева Вольга.** Што агульнага паміж Іспаніяй і Беларуссю?: [Беларускія мастакі пра Іспанію] // Звязда. 2000. 4 крас.

**Сорокина О. А.** Испанский язык: Учеб. пособие для студентов тех. фак. Мозырь, 1999.

**Шаранговіч Наталля.** "Іспанская партыя" беларускіх мастакоў // Літ. і мастацтва. 2000. 14 крас.

**Шунейка Яўген.** Франсіска Гоя: Ахвяры дэспатызму і героі-вальналюбцы // Род. слова. 2000. № 4. С. 58–64.

## • Беларусь – Йемен

**Тарык Ахмед Абадзі.** Дзяржаўная абарона правоў чалавека ў Йемене // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 51–54.

## • Беларусь – Канада

**Грышкевіч Раіса** [Канада]. Суродзічы беларусы!: [Зварот] // Наша ніва. 2000. 20 сак.

**Козикис Д. Д.** Канада в профиле и в развитии: [Навуч. дапаможнік]. Минск, 1999.

**Тычына В. М.** Канада на пороге XXI столетия = Canada enters XXI century. Минск, 1999.

### • Беларусь – Кітай

**Джан Хэ Лань.** Праблема народанасельніцтва Кітая // Вес. НАН Беларусі: Сер. гуманіт. навук. 2000. № 1. С. 17–21.

### • Беларусь – Куба

**Кастро Фидель.** Из книги “Беседы о религии”: [Інт.] / Зап. Фрея Бетто; пер. В. Спасской // Всемир. лит. 2000. № 4. С. 177–189.

### • Беларусь – Латвія

**Бучэль Таццяна.** Весткі з суполак: Крокі “Уздыму” [Даўгаўпілс, Латвія] // Голас Радзімы. 2000. 19 крас.

**Радштэйн Сяргей.** Вы размаўляеце па-латышску? // Наша ніва. 2000. 10 мая.

**Эдвард Вайвадзіш**: [Некралог бел. паэта з Латвіі] // Літ. і мастацтва. 2000. 7 крас.

### • Беларусь – Літва

**Алёхна Таццяна.** “…Абы вольности уживати могли”: Паэтыка барока ў прадмовах Льва Сапегі да Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. // Род. слова. 2000. № 4. С. 20–22.

**Мілаш Леакадзія.** Прэзентацыя кнігі С. Алексіевіч “Чарнобыльская малітва” // Наша слова. 2000. 26 крас.

[**Плыгаўка Лілія**]. Беларускай адукацыяй у Літве займаюцца прафесіяналы: [Інт.] / Зап. Юрася Ляшкевіча // Голас Радзімы. 2000. 12 крас.

### • Беларусь – Палесціна

**Шамякіна Таццяна.** Старажытная Палесціна і станаўленне хрысціянства // Род. слова. 2000. № 4. С. 67–71.

### • Беларусь – Партугалія

**Сасіньска Анна.** Лісабон — год 1709: У краіне адкрыццяў і вынаходкаў / Пер. з пол. Алеся Траяноўскага // Бярозка. 2000. № 4. С. 24–26.

### • Беларусь – Польшча

**Абрамова И. А.** Судьба коллекции В. П. Федоровича // 90 гадоў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. Мн.; Віцебск, 2000. С. 56–57.

**Ажэшка Эліза.** Выбраныя творы / Уклад., прадм. і камент. В. Гапавай. Мн., 2000.

**Добрынин М. А.** История общеобразовательной школы и педагогической мысли Польши (1944–1995). Брест, 1999.

**Запрудскі Ігар.** Ля вытокаў беларускага літаратуразнаўства: Адам Кіркор як гісторык беларускай літаратуры // Род. слова. 2000. № 4. С. 18–19.

**Ляўковіч Алена.** …І тут ён накрэсліў першыя ноты: Радзіма Станіслава Манюшкі — у цэнтры Беларусі // Звязда. 2000. 18 крас.

**Марціновіч Алесь.** Агінскі: шматграннасць партрэта: [Рэц. на: Залуский Анджей. Время и музыка Михала Клеофаса Огинского. Минск, 1999] // Мастацтва. 2000. № 4. С. 52–53.

**Мархель Уладзімір.** У руху імклівага і неразборлівага часу: Аляксандр Ельскі і беларускія пісьменнікі // Род. слова. 2000. № 4. С. 9–12.

[**Машкевіч Марыюш**]. Палякі гатовыя дапамагаць беларусам. Калі яны самі захочуць сабе дапамагчы: Эксклюзіўнае інтэрв’ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара Рэспублікі Польшча ў РБ Марыюша Машкевіча // Пагоня. 2000. 20 крас.

[**Нягодзіш Томаш**]. Томаш Негодиш: “Важно выбрать главное дело своей жизни…” : [Інт.] / Зап. Аллы Козаковой // Вечер. Минск. 2000. 12 мая.

**Рамановіч Г. Г.** Краязнаўчая экспедыцыя “Беларускімі дарогамі Адама Міцкевіча” // Сацыяльнапедагагічная работа. 2000. № 1. С. 79–86.

**С. Б.** “Убельская ластаўка”: [Пра свята-конкурс на радзіме С. Манюшкі] // Літ. і мастацтва. 2000. 28 крас.

**Талерчык Аляксандр.** Лістападаўскае паўстанне 1830 года [у Польшчы і Беларусі] і ўдзел у ім Міхала Валовіча // Пагоня. 2000. 20 крас., 4, 11 траўня.

**Чобат А.** Крынкі — цэлы свет: [Рэц. на: Яновіч Сакрат. Запісы веку. Беласток, 1999] // Гродзен. праўда. 2000. 3 мая.

**Языковіч Ларыса.** Беларуская меншасць у Польшчы: [Пра кнігу Генрыха Халупчака і Томаша Бравcovарэка “Нацыянальныя меншасці ў Польшчы. 1918–1995”] // Голас Радзімы. 2000. 26 крас.

**Яновіч Сакрат** [Польшча]. Абарыгенская наіўнасць: [Пра публікацыю Уладзіміра Крукоўскага “Тысяча плюс дваццаць”] // Наша ніва. 2000. 20 сак.

**Białorusini** w Polsce: Rozmowa z przewodniczącym Związku Białoruskiego w Polsce [Яўгенам Вапай] / Rozm. Natalia Malinowska // Głos znad Niemna. 2000. 28 kwiet.

**Bigdai Irina.** Belarusian artists visit Poznan // Belarus Today. 2000. Apr. 18–24.

**Cetera Tomasz**. Władysław Stanisław Reymont ostatni romantyk długiego wieku XIX // Słowo ojczyste [Grodno]. 2000. Nr. 3. S. 19–21.

**Gajdel Jan**. Kiedy spadły kajdany niewoli: Aspiracje ludności polsko-białoruskiego pogranicza i jej stanowisko wobec zagadnień przynależności państwowej w latach 1918–1921 // Magazyn Polski [Grodno]. 2000. Nr. 1–2. S. 18–23.

**Iwanowski Witold**. Londyn podziwia Ruszczyca // Głos znad Niemna. 2000. 3 marca.

**Jaszczyszyn Elżbieta, Jabłonowska Wiesława**. Język polski w przedszkolu: Projekt programu nauczania // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 3. S. 16–18.

**Kabzińska Iwona**. Kto jest Polakiem na Białorusi // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 4–8.

**Kabzińska Iwona**. Wyznanie jako wyznacznik tożsamości // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 9–17.

**Kalendarium** życia i twórczości Władysława Stanisława Reymonta // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 3. S. 22–24.

**Karpyza Witold, Siemieńczuk Henryk**. Wincenty Tyszkiewicz i jego testament // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 26–29.

**Kawecka T**. Nasza pamięć — nasza przyszłość: 146 rocznica śmierci Konstantego Wincentego Kalinowskiego // Głos znad Niemna. 2000. 24 marca.

**Kawecka T**. Zauważalny i niezwykły: W 80 rocznicę urodzin Aleksego Karpiuka // Głos znad Niemna. 2000. 21 kwiet.

**Kruczkowski Tadeusz**. Jesteśmy tu od wielu pokoleń // Głos znad Niemna. 2000. 25 lut. – 24 marca.

**Kusielczuk Andrzej**. Polacy na Białorusi: Posiedzenie Sejmowej Komisji Łączności z Polakami za Granicą poświęcone sytuacji Polaków na Białorusi // Głos znad Niemna. 2000. 14 kwiet.

**Lenartowicz Zbigniew**. Antoni Edward Odyniec // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 24–25.

**Martyniuk Waldemar**. Program progowy języka polskiego jako obcego/drugiego // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 3. S. 10–15; Nr. 4. S. 23–29.

**Monety** w muzeach Grodzieńszczyzny // Głos znad Niemna. 2000. 21 kwiet.

**Myszko Danuta**. “Polacy nie gęsi…”: [Пра пісьменніка Мікалая Рэя] // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 4. S. 33–35.

**Preckajło Waldemar**. “Dziady”: [Аб прэзентацыі перакладу паэмы А. Міцкевіча ў Мінску] // Głos znad Niemna. 2000. 10 marca.

**Rudnicki Konrad**. Honorowy obywatel Grodna: [Пра гродзенскага музеязнаўцу Юзафа Ядкоўскага] // Głos znad Niemna. 2000. 14 kwiet.

**Skrobocki Eugeniusz**. Pierwsza polska gazeta w Grodnie: “Awizy Grodzieńskie” // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 34.

[**Stelmachowski Andrzej**]. 10 lat stowarzyszeniu “Wspólnota polska”: [Інт.] / Rozm. Andrzej Kusielczuk // Głos znad Niemna. 2000. 3 marca.

**Tydzień** pamięci Elizy Orzeszkowej: Materiały pomocnicze dla uczniów i nauczycieli // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 3. S. 25–29.

**TZ**. Omówiono twórcze plany: Konferencja sprawozdawczo-wyborna Towarzystwa Plastyków Polskich przy ZPB // Głos znad Niemna. 2000. 25 lut.

**TZ**. Zwycięzców wyznaczono: VIII Olimpiada Literatury i Języka Polskiego // Głos znad Niemna. 2000. 10 marca.

**Winnicki Zdzisław J.** W obronie prawdy kresowej // Głos znad Niemna. 2000. 14 kwiet.

**Winnicki Zdzisław Julian**. Wyznaczniki tożsamości etnicznej // Magazyn Polski. 2000. Nr. 1–2. S. 6–9.

**Wiśniewska Grażyna**. Witaj w świecie polskiej pisowni // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 4. S. 15–22.

**Wysłouch Franciszek**. Echa Polesia: Wieczór na Polesiu // Słowo ojczyste. 2000. Nr. 4. S. 10–11.

## • Беларусь – Расія

**Астроўскі Алесь.** “Як я абмяркоўваў Саюзную дамову” // Права на волю. 2000. № 5. Сак. С. 8.

**Бандарэнка Мікалай.** Нястомны даследчык Сібіры: [Пра ўраджэнца Міншчыны Бенядзікта Дыбоўскага] // Голас Радзімы. 2000. 26 крас.

**Бордилович А. М., Гируцкий А. А., Чернышова Л. В.** Сопоставительный курс русского и белорусского языков: [Навуч. дапамож. для студэнтаў філалаг. спец. ВНУ]. Минск, 1999.

**Бормот В. В.** Москва на пути к культуре мира // Праблемы выхавання. 2000. № 1. С. 88–94.

**Бяспрозваная Лідзія.** Дзівосны дар: Да 100-годдзя Івана Казлоўскага // Літ. і мастацтва. 2000. 7 крас.

**Волынец Т. Н.** Семантика и грамматика русского причастия в тексте. Минск, 1999.

**Ганичев Валерий.** Оптина [пустынь]… // Всемир. лит. 2000. № 4. С. 155–165.

[**Глотов Александр**]. “Это наш любовный треугольник…”: [Інт. пра пастаноўку ў Гродне п’есы рускага драматурга М. Задорнава “Апошняя спроба”, зап. Святланы Кармазінай] // Гродзен. праўда. 2000. 18 мая.

**Горелик Евгений.** Андрей Сахаров узнал Беларусь по книгам Быкова: в 1989 году за это интервью журналиста упрекнули в “безответственном выборе собеседника” // Бел. деловая газ. 2000. 25 апр.

